ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№4 (133) красавік 2022 год

CATHOLICNEWS.BY




Вялікдзень 2022

**Паважаныя браты і сёстры ў Хрысце, шаноўныя суайчыннікі!**

*“У Ягонае Імя павінна абвяшчацца пакаянне дзеля адпушчэння грахоў усім народам, пачынаючы ад Ерузалема” (Лк 24,47).*

Уваскрасенне Езуса Хрыста, якое ў гэты час мы перажываем, не пазначана сёлета ўзнёслай радасцю, якая звычайна спадарожнічае гэтаму святу – галоўнай падзеі, з которай чэрпае сваю моц і абгрунтаванне хрысціянская вера. Не таму, што яна нібыта перастала быць праўдай, але таму, што гэтая праўда перастала кранаць людскія сэрцы, мець уплыў на жыццё чалавека і як вынік – не стрымала вайны, што знішчае людское жыццё і нясе разбурэнне.

Калісьці Хрыстос сказаў вельмі моцныя словы: “Кажу вам: калі не пакаецеся, усе таксама загінеце” (пар. Лк 13,3). Яны прагучалі ў адказ на паведамленне пра злачынства, здзейсненае Пілатам над групай галілеян. Гэтае моцнае папярэджанне Збаўцы набывае асаблівую актуальнасць сёння. І добра, калі яно стане нагодай не спужацца, але па-сапраўднаму паважна падысці да Евангелля – Добрай Весткі пра тое, як “...палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае” (Ян 3,16). Бо Бог “не хоча смерці грэшніка, але каб адвярнуўся ад шляху свайго і жыў” (Эз 33,11).

Апошні час нясе з сабой шмат папярэджанняў чалавецтву. І ў гэтым хаваецца таксама вялікая Божая Міласэрнасць. Нам, сваім часта непаслухмяным дзецям, Ён хоча зноў і зноў сказаць: “Я люблю вас”! Як доказ таму – чарговае Свята Пасхі, падчас якога мы разважаем і перажываем крыжовую пакуту ахвяраванага дзеля нас Божага Сына. Аднак гэта дзеля таго, каб разам з Ім уваскрэснуць: тут, у гэтым свеце са сваіх грахоў і недахопаў, а напрыканцы часоў – да жыцця вечнага.

“Гэта Я сказаў вам, каб вы мелі ўва Мне спакой. У свеце зведаеце ўціск, але будзьце адважнымі: Я перамог свет” (Ян 16,33). Няхай гэтыя словы Хрыста не пакідаюць вас ніколі, становячыся крыніцай надзеі і мудрага падыходу да жыцця! Няхай Божы спакой напаўняе вашыя сэрцы, дамы, нашу Краіну і ўвесь свет!

Хрыстос Уваскрос!
Сапраўды Уваскрос!
Са Святам!

+Алег Буткевіч
Біскуп Віцебскі

## Шлях да шчасця ў выкарыстанні таленту




## Чаму дзяўчаты ідуць у манастыр? Інтэрв’ю з будучай манахіняй-беларускай




## Такім ён застанецца ў нашай памяці...




## Ксёндз Аляксандр Баран быў асуджаны на 10 сутак за дзеянні ў сацыяльных сетках

Стар. 3

## Што Касцёл кажа пра перадвызначэнне чалавека?

Стар. 14

## Правільнасць літаратурнага вымаўлення

Стар. 4

# Папа Францішак здзейсніў Чын прысвячэння Расіі і Украіны Беззаганнаму Сэрцу Марыі

**“Вітай, поўная ласкі, Пан з Табою!” (Лк 1, 28), – гэтыя словы Анёла да Марыі сталі лейтматывам казання Папы падчас пакутнага набажэнства 25 сакавіка.**

Увянчаннем малітвы, якая прайшла ў базыліцы Святога Пятра, стаў Чын прысвячэння чалавецтва, і асабліва Расіі і Украіны, Беззаганнаму Сэрцу Марыі. Яго прамовіў асабіста Пантыфік.

“Маці Божая вучыць нас пачынаць з Бога, верачы, што так будзе дадзена нам усё астатняе (Мц 6, 33). Яна запрашае нас ісці да крыніцы, да Пана, Які з’яўляецца радыкальным сродкам супраць страху і зла ў жыцці”, – адзначыў Святы Айцец у сваім разважанні. Ён заўважыў, што “ў гэтыя дні навіны і вобразы смерці працягваюць урывацца ў нашы дамы, а бомбы знішчаюць жытло шматлікіх безабаронных братоў і сясцёр ва Украіне”.

“Жорсткая вайна, якая закранула многіх і прымусіла ўсіх пакутаваць, выклікае страх і жах у кожнага. Мы адчуваем бездапаможнасць і непаўнавартаснасць. Нам важна пачуць: “Не бойся!” Але чалавечага спакою недастаткова, патрэбная прысутнасць Бога, упэўненасць у прабачэнні Бога, у Тым адзіным, хто здымае зло, змякчае крыўду, аднаўляе спакой у сэрцы. Вернемся да Бога, да Яго прабачэння!” – звярнуўся Папа.

Папа Францішак зноў працытаваў словы Анёла падчас Звеставання: “Дух Святы сыдзе на Цябе” (Лк 1, 35), і заўважыў: “Вось як Бог умешваецца ў гісторыю – даючы свайго Духа”. “У тым, што па-сапраўднаму важнае, нашых уласных сіл недастаткова. Мы не можам самастойна вырашыць супярэчнасці гісторыі і супярэчнасці нашых уласных сэрцаў. Нам патрэбная мудрая і лагодная сіла Божая, якой з’яўляецца Дух Святы. Нам патрэбны Дух любові, каб развеяць нянавісць, пагасіць крыўду, пазбавіцца прагнасці і абудзіцца ад абыякавасці. Нам патрэбная Божая любоў, таму што наша любоў слабая і недастатковая”, – падкрэсліў Пантыфік.

Паводле Папы, “калі мы хочам, каб свет змяніўся, у першую чаргу павінна змяніцца наша сэрца”. “Каб гэта адбылося, возьмем сёння Маці Божую за руку. Паглядзім на Яе Беззаганнае Сэрца, на якім спачываў Бог, на адзінае Сэрца чалавека без ценю. Яна “поўная ласкі” (Лк 1, 28) і таму вольная ад граху: у ёй няма і следу зла, і таму з ёю Бог змог пачаць новую гісторыю збаўлення і міру. Там гісторыя змяніла свой ход. Бог змяніў гісторыю, пастукаўшы ў Сэрца Марыі”, – адзначыў Францішак.



Пантыфік прызнаўся, што “ў лучнасці з біскупамі і вернікамі ўсяго свету хацеў бы ўрачыста прынесці да Беззаганнага Сэрца Марыі ўсё, што мы перажываем: аднавіць прысвячэнне Ёй Касцёла і ўсяго чалавецтва, а таксама асаблівым чынам прысвяціць Ёй украінскі і рускі народы, якія шануюць Яе з сыноўняй пяшчотай як Маці”.

Папа падкрэсліў, што Чын прысвячэння Беззаганнаму Сэрцу Марыі – “гэта не магічная формула, а духоўны акт”, “жэст поўнага даручэння дзяцей, якія ў пакутах гэтай жорсткай і бессэнсоўнай вайны, што пагражае свету, звяртаюцца да сваёй Маці, давяраючы свой страх і боль Яе сэрцу, давяраючы Ёй сябе”.

“З вуснаў Марыі выйшаў найпрыгажэйшы сказ, які мог прынесці Богу Анёл: “Няхай мне станецца паводле твайго слова” (Лк 1, 38). Прыняцце Марыі не з’яўляецца пасіўным і безудзельным, гэта жывое жаданне трымацца за Бога, Які мае “намеры на дабро, а не на зло” (Ер 29, 11). Гэта самы непасрэдны ўдзел свету ў мірным плане Бога. Мы прысвячаем сябе Марыі, каб увайсці ў гэты план, каб цалкам аддаць сябе ў распараджэнне Божых планаў.

Сказаўшы “так”, Маці Божая адправілася ў далёкую дарогу ў горы, каб наведаць сваю цяжарную стрыечную сястру (Лк 1, 39). Няхай Яна возьме за руку нас на нашым шляху: няхай вядзе па крутых і цяжкіх шляхах братэрства і дыялогу, па шляху міру”, – сказаў Папа Францішак перад тым, як прамовіць Чын прысвячэння чалавецтва, і асабліва Расіі і Украіны, Беззаганнаму Сэрцу Марыі.

***Кс. Аляксандр Амяльчэня***
*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Великобритания: бывший англиканский епископ стал католическим священником

**Архиепископ Вестминстерский кардинал Винсент Николс рукоположил во священника бывшего англиканского епископа Джонатана Гудолла.**

Рукоположение состоялось 12 марта в лондонском Вестминстерском соборе, сообщает «Благовест-инфо» со ссылкой на официальный сайт Католической Церкви в Англии и Уэльсе.

Кардиналу Николсу сослужили несколько прелатов, среди которых были архиепископ Кардиффский Джордж Стек, Сент-Эндрюсский и Эдинбургский Лео Кашли и глава украинской греко-католической епархии Св. Семейства в Лондоне епископ Кеннет Новаковски. В качестве экуменических гостей на богослужении присутствовало несколько англиканских епископов.

Джонатан Гудолл родился в 1961 году в Йоркшире. Был рукоположен в англиканского священника в 1989 году. Служил младшим каноником в Вестминстерском аббатстве, был капелланом епископа Гибралтарского. В 2005-2013 гг. служил капелланом и экуменическим секретарем архиепископов Кентерберийских. В 2013 году стал епископом Эббсфлита – суффраганом Кентерберийской епархии и епархиальным визитатором для англикан – противников женского епископата и священства.

В сентябре 2021 архиепископ Джастин Уэлби удовлетворил прошение епископа Гудолла об отставке. В прошении Гудол указал, что «после долгого периода молитв» решил перейти в полное общение с Католической Церковью.

Как пишет издание Catholic World Reporter, предшественник Гудолла на Эббсфлитской кафедре епископ Энрю Бёрнем также перешел в католицизм и был рукоположен во священника в 2011 году.

Отец Гудолл будет служить в приходе св. Уильяма Йоркского в Стэнморе. У священника и его жены Сары двое детей.

*Сибирская католическая газета*



# Святы Айцец маліўся за ахвяр разні ў Бучы і іншых месцах Украіны

**6 красавіка напрыканцы агульнай аўдыенцыі Папа Францішак прыгадаў вайну на тэрыторыі Украіны і памаліўся з украінскімі дзецьмі, якія знайшлі прытулак у Рыме.**

“Апошнія навіны з Украіны замест таго, каб прынесці палёгку і надзею, сведчаць пра новыя зверствы, такія, як разня ў Бучы: усё больш жахлівая жорсткасць, скіраваная таксама супраць мірных жыхароў, жанчын і безабаронных дзяцей. Яны – ахвяры, чыя нявінная кроў кліча да неба і просіць: “Пакладзіце канец гэтай вайне! Прымусьце змоўкнуць зброю! Перастаньце сеяць смерць і разбурэнне!” “Давайце разам маліцца за гэта!”, – сказаў Папа Францішак.

Святы Айцец паказаў паліты крывёй украінскі сцяг, прывезены яму напярэдадні з Бучы. Ён прадставіў групу ўкраінскіх дзяцей, якія прысутнічалі ў Зале Паўла VI, і папрасіў прывітаць іх і памаліцца за іх і разам з імі.

“Гэтыя дзеці былі вымушаныя ўцячы і прыехаць на чужыну. Гэта адзін з пладоў вайны. Не забывайма пра іх і не забывайма пра ўкраінскі народ! Цяжка быць вырваным са сваёй зямлі, калі віной усяму – вайна”, – адзначыў Папа.

***Кс. Аляксандр Амяльчэня***
*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*



**Папа Францішак цалуе ўкраінскі сцяг з Бучы на знак пашаны да загінулых украінцаў**

# Ксёндз Аляксандр Баран быў асуджаны на 10 сутак за дзеянні ў сацыяльных сетках

**Ксяндза Віцебскай дыяцэзіі, пробашча Лынтупскай парафіі кс. Аляксандра Барана, суд у Паставах 4 красавіка прысудзіў да 10 сутак пазбаўлення волі.**


Фота Альфрэда Мікуса, 2019 год

Яго асудзілі за дзеянні ў сацсетках паводле двух адміністрацыйных артыкулаў: 24.23 – «несанкцыянаванае пікетаванне» (за выяву бел-чырвона-белага сцяга разам з украінскім сцягам на аватарцы) і 19.11 – «распаўсюд экстрэмісцкіх матэрыялаў» (лайкі і каментары пад публікацыямі інфармацыйных старонак, абвешчаных «экстрэмісцкімі»).

Святара затрымалі 25 сакавіка. Адразу склалі пратакол за «незаконнае пікетаванне» па арт. 24.23 КаАП. Нагодай стала тое, што ў фота на профілі ў сацсетцы ксёндз Аляксандр размясціў сцяг Украіны і бел-чырвона-белы сцяг 24 лютага – у дзень пачатку вайны Расіі супраць Украіны.

«Для мяне, як і для іншых хрысціян, – гэта знак Хрыста ўваскрослага, які нясе мір. А сцяг Украіны я размясціў таму, што служыў там, у мяне засталіся сябры і сваякі ва Украіне, і такім чынам я хацеў паказаць, што памятаю пра іх і люблю», – тлумачыць святар.

Ксяндза адразу затрымалі і адправілі за краты. У выніку ў ізалятары ён правёў шэсць дзён. «Цяпер мы перажываем Вялікі пост, і для мяне гэта былі вельмі добрыя рэкалекцыі: строгі пост на хлебе і вадзе, шмат малітвы. Дзякуй Богу, дазволілі мне перадаць акуляры і Брэвіярый, каб я мог маліцца. Умовы ў ізалятары – як у Сярэднявеччы. Да таго, як дапусцілі адваката, стаўленне да мяне было хамскім. Я выразна зразумеў, што перажывалі святары падчас сталінскіх рэпрэсій у 1930-х гадах, якіх гэтак жа кідалі за краты», – падзяліўся ксёндз Аляксандр.

Калі прайшло трое сутак пасля затрымання і па законе святара абавязаны былі альбо судзіць, альбо вызваліць, на яго склалі новы пратакол, і такім чынам змаглі падоўжыць арышт яшчэ на тры дні. На гэты раз абвінавацілі ў «распаўсюдзе экстрэмісцкіх матэрыялаў» па артыкуле 19.11 КаАП:

«На маіх старонках знайшлі «лайкі» за 2020 год пад публікацыямі інфармацыйных каналаў, якія пазней прызналі «экстрэмісцкімі». І ў гэтым мяне абвінавацілі. Я ім спрабаваў растлумачыць, што сотні тысяч беларусаў у той час ставілі такія ж «лайкі». Атрымліваецца, іх усіх таксама трэба судзіць? Чаму святар не можа цікавіцца падзеямі, якія адбываюцца ў краіне і свеце, чэрпаць інфармацыю з розных крыніц? Але яны гэта не ўспрымалі», – заўважыў святар.

Ксёндз Аляксандр мяркуе, што такімі дзеяннямі спрабуюць дыскрэдытаваць святароў, якія маюць аўтарытэт сярод вернікаў: «Я ім сказаў, што, якая б ні была ўлада, Каталіцкая Царква заўсёды будзе рабіць адно – абвяшчаць праўду Евангелля Божага, а не палітыку якіхнебудзь партый. І не Касцёл улазіць у палітыку, а наадварот: яны сваёй палітыкай лезуць у жыццё кожнага чалавека, у жыццё Касцёла, хочуць знішчыць яго аўтарытэт, закрыць раты».

4 красавіка суд праходзіў у Паставах. Падтрымаць ксяндза Аляксандра прыехалі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, святары дыяцэзіі, законная сястра і парафіянін. Katolik.life паразмаўляў з тымі, хто прысутнічаў на судзе.

«Па логіцы, абвінавачваць абсалютна не было ў чым. Ксёндз Аляксандр цалкам адмаўляў несправядлівае абвінавачванне, тлумачыў усё з пазіцыі хрысціянства: што ягоная місія – быць разам з людзьмі, што бел-чырвона-белы сцяг – гэта знак перамогі ўваскрослага Хрыста, што ён не меў ніякіх палітычных намераў. Адвакат цалкам разбіў абвінавачванні, тлумачыў, што яны беспадстаўныя, спасылаўся на Канстытуцыю, і пасля ягонай прамовы была надзея, што ксяндза Аляксандра апраўдаюць. Але…»

Пасля абвяшчэння рашэння святара не затрымалі адразу ў зале суда, а далі гадзіну на тое, каб самому прыйсці для адбывання пакарання. Ксёндз Аляксандр з пакорай так і зрабіў.

6 сутак святар ужо правёў за кратамі, таму яму заставалася адбыць яшчэ 4 сутак. Але, як стала вядома Курыі Віцебскай дыяцэзіі, кс. Аляксандра 6 красавіка вызвалілі з вязніцы. Пра гэта паведаміў пробашч Пастаўскай парафіі кс. Вадзім Прасяной SCJ.

Вялікі дзякуй усім, хто малітоўна падтрымліваў кс. Аляксандра Барана.

*Паводле матэрыялаў Katolik.life*

# Бразильский священник в Украине: “Их жизнь – моя жизнь, их судьба – моя судьба”

**Отец Лукас отказывается покинуть страну и тронут многочисленными примерами надежды, свидетелем которых он стал за время текущего конфликта.**

Лукас Пероцци находится в Киеве, столице Украины. С первых дней боевых действий он и еще трое священников приняли около 30 человек в приходе Успения Пресвятой Богородицы. В настоящее время он почти не спит и не ест и даже ненадолго заболел в этот период. Но, несмотря на то, что он мог покинуть страну, если бы захотел, решил остаться с людьми, которым пришел служить и которых любит.

«В эти дни люди не могли оставаться в своих домах и ночевали в бункерах и на станциях метро. Это было ужасно, потому что эти места холодные, грязные, а атмосфера очень мрачная. Они были напуганы. Те, кто приехал к нам погостить, теперь могут спать всю ночь в мирной обстановке, несмотря на происходящее вокруг. Здесь царит братская солидарность, люди помогают друг другу. Когда кому-то плохо, грустно и страшно, им помогают те, кому ещё не так плохо», – сказал о. Лукас. Во время выступления перед папской благотворительной организацией «Помощь Церкви в нужде» (ACN) он рассказал, что звуки боевых действий бушевали весь день. Товаров тоже становится все меньше. «Некоторые магазины еще открыты, но их полки с каждым днем пустеют. Медикаменты тоже заканчиваются», – добавляет он.



Отец Лукас служит в Украине с 2004 года. В юности он посещал собрания Неокатехуменального пути в Италии, и в итоге его пригласили поехать в Украину, где он стал священником. Его пребывание в этой стране было тесно связано с организацией «Помощь Церкви в нужде». «Мы получаем большую помощь от ACN, и не только сейчас. Епархиальная миссионерская семинария Redemptoris Mater, где я учился, поддерживалась и продолжает поддерживаться ACN. Благодаря ACN я смог приобрести здесь, в приходе, машину, которую использую для пастырской работы. Церковь, в которой сейчас укрывается 30 человек, была построена в основном с помощью благотворительной организации. Я только что узнал, что мы получили экстренную помощь от ACN для продолжения нашей работы, поэтому мы очень благодарны!»

Но общине по-прежнему нужна помощь. Отец Лукас говорит, что только что приехала новая семья с двумя детьми. В этих условиях люди ищут, прежде всего, убежища и духовной поддержки. По словам священника, даже текущие обстоятельства не могут погасить свет надежды. «Вчера у нас была свадьба, а сегодня – еще одна! Люди приходят на исповедь. Это впечатляет, когда пары приходят и просят обвенчать их, хотя знают, что мы не можем подготовить ничего особенного. У них нет романтических иллюзий, они хотят прожить эти дни в благодати Божией, как семья. Даже посреди боевых действий мы видим, что Бог есть любовь, Он продолжает любить каждого из нас безгранично».

Жизнь сейчас трудна и опасна, но о. Лукас не собирается уезжать из Украины. «Их жизнь – моя жизнь, их судьба – моя судьба», – заключает он. И он не один. Как и он, тысячи священников и верующих предпочли остаться с украинским народом, став семенами мира и надежды. Тем временем «Помощь Церкви в нужде», которая уже более 60 лет помогает Украине с проектами, усилила поддержку священников и монашествующих, которые оказывают материальную и духовную помощь жертвам конфликта.

*Рускатолик.рф*

## Як браць прыклад і развіваць сваё служэнне на ўзор св. Юзафа разважалі мужчыны ў Глыбокім

**19 сакавіка, ва ўрачыстасць святога Юзафа, у Глыбокім адбылася першая фармацыйная сустрэча мужчын. Такі фармат быў абраны нездарма, бо ўдзел прынялі пятнаццаць мужчын – чальцы ружанцовага кола святога Юзафа і святога айца Піа, а таксама тыя, хто прымае ўдзел у спатканнях сем'яў, якія ладзяцца ў Глыбоцкай парафіі кожную трэцюю сераду месяца.**

Праводзіў сустрэчу кс. Мікалай Ціхановіч. Спатканне распачалося з канферэнцыі, галоўнай тэмай каторай была роля мужчыны на ўзор святога Юзафа як абаронцы сваёй сям'і, сваіх родных, а таксама абаронцы ўсяго Касцёла ад дзеянняў зла; як важна браць прыклад са святога Юзафа і кіравацца гэтым у нашым штодзённым жыцці; як будаваць сваю сям'ю, не абапіраючыся на мадэлі нашых продкаў, родных або суседзяў, а стварацъ новую мадэль сям'і, беручы прыклад са Святой Сям'і з Назарэту.

Заканчэннем першай часткі сустрэчы сталі малітва на ружанцы і Літанія да святога Юзафа. А далей – неафіцыйная частка, з грылем і асабістымі размовамі. Ёсць вялікая надзея, што такі фармат сустрэч працягнецца і будзе толькі развівацца, дапамагаючы нам, мужчынам, якія прымаюць удзел, умацняць сваю веру і служэнне Богу на ўзор святога Юзафа.

*Дзмітрый Шаршунс*





## Глыбоцкія легіянеры аднавілі прысягу на вернасць Маці Божай

**26 сакавіка ў касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім адбыўся ўрачысты штогадовы сход легіянераў Марыі Глыбоцкай курыі – «Acies». «Acies» – гэта асабістае і калектыўнае пацвярджэнне адзінства і вернасці Легіёну.**

Спатканне распачалося з гімна і пачатковых малітваў легіянераў, затым памаліліся ружанцам. Пасля агульнай малітвы Легіёну адбылося аднаўленне прысягі. Кожны легіянер, актыўны і дапаможны, падыходзіў да алтара і, паклаўшы руку на драўляны штандар, прамаўляў асабістае прысвячэнне: «Я цалкам духам Твой, Каралева і Маці мая, і ўсё, што я маю, належыць Табе».

Святую Імшу цэлебраваў кс. Яўген Міхайлаў – пробашч Лучайскай парафіі, які з'яўляецца духоўным кіраўніком "воінаў Марыі" Глыбоцкай курыі. "Хочам замацаваць гэтай малітвай нашу прысягу, дадзеную Марыі, якую мы аднавілі некалькі хвілін таму. Хочам выпрасіць у Бога патрэбныя ласкі, каб заставацца вернымі Маці Божай у служэнні Касцёлу і ў спаўненні Божай волі на зямлі".

Падчас гаміліі святар паразважаў над прысягай Маці Божай і над важнасцю яе захоўвання.

Сустрэчу ўдзельнікі працягнулі ў парафіяльным доме за супольным пачастункам.

*Марына Сінкевіч*

# Правільнасць літаратурнага вымаўлення

*(Працяг. Пачатак – у папярэднім нумары)*

**У мінулым нумары мы разгледзелі некаторыя важныя аспекты беларускага літаратурнага вымаўлення. У прыватнасці, мы канстатавалі, што незаўсёды вымаўленне супадае з напісаннем, хоць гэты спрошчаны погляд нярэдка можна пачуць нават ад настаўнікаў беларускай мовы.**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

На канкрэтных прыкладах мы паказалі дзейнасць у маўленні законаў поўнага акання (*горад – гарады, моладзь – малады*), няпоўнага якання (*лес – лясы, мёд – мядовы*), ахарактарызавалі асаблівасці вымаўлення гука **і** пасля галосных (*яна **й**дзе, сястра **й** брат) і зычных (ён **ы**дзе, брат **ы** сястра),* а таксама тэндэнцыі ў вымаўленні фрыкатыўнага, працяжнага гука **г** (*агрэст, ганак, гузік*).

Сёння мы пагаворым пра іншыя важныя правілы вымаўлення.

1 Свісцячыя гукі **[з], [с], [дз], [ц]** у пазіцыі перад наступным мяккім зычным ці ётавым галосным вымаўляюцца максімальна (!) мякка. Гэта адна з найбольш важных, прынцыповых рысаў беларускай мовы: ***сь**вятло, **зь**зяньне, **сь**нег, бя**зь**літасны, **зь**ява, **зь**есці, **сь**лед, **Дзь**віна, **ць**вёрды.* Фанетычны закон змякчэння пашыраецца і на прыназоўнікі *з, без, праз*: ***зь** Віцебска*, ***безь** цябе*, ***празь** мяне.* Асіміляцыйная мяккасць не проста ўпрыгожвае нашу мову, робіць яе выключна прыемнай на слых, але яшчэ і адрознівае ад усіх іншых славянскіх моў, бо ніводная з іх не мае такой далікатнай мяккасці. Практыка сведчыць, што амаль усе носьбіты мовы дапускаюць памылку, вымаўляючы свісцячыя гукі ў згаданых пазіцыях недастаткова мякка ці зусім цвёрда. Між тым арфаэпічныя нормы дапускаюць цвёрдае вымаўленне свісцячых толькі перад мяккімі заднеязычнымі **[г]**, **[к]**, **[х]**: *скінуць, згінуць, схіліцца.* Але, улічваючы тэндэнцыі апошніх гадоў, свісцячыя гукі і перад мяккімі [г], [к], [х] могуць вымаўляцца мякка. Выключэннем варта прызнаць толькі адзінкавыя іншамоўныя словы, не асвоеныя пакуль нашай мовай (*скетч, Цхінвал, скін),* а таксама спалучэнне [*зг*] у лексемах кшталту *ро**зг**і, ма**зг**і, рэ**зг**іны.*

Паспрабуйце прачытаць наступныя словы і спалучэнні згодна з правіламі літаратурнага вымаўлення: *пасля бязветранага надвор'я; снег ззяе; бязлітасна-нясцерпны боль; прыехаць смела з Мінска; смяяцца з сябе; без мяне шчасця не будзе; з'ехаць у Цвер; прыйсці на світанні; разбіць чымсьці цвёрдым шкло; кветкі цвітуць і цвісці будуць; смешныя сцены і дзверы; цвёрда загнаць цвік; смелае сцвярджэнне; ісці след у след; з'яднаная супольнасць; пацвердзіць рашэнне; збегчы з ім з Віцебска; з'явіцца ў сне; з'есці дзве грушы; пасміхацца з нясмешных з'яў; нязменная веліччыня; уз'ехаць на схіл; выцвелы на сцяне здымак зняць; дзвесце дзве цвёрдыя цыбуліны; змірыцца са зменлівасцю лёсу; сціплы падзвіжнік Дзмітрый Сцяпанавіч; у змястоўнай назве; рассесціся знянацку ўздоўж сцен; праз дзве гадзіны з'явіцца ў спешцы і ў спёку; праехаў пасля праз яму; язмін зацвіў спецыфічным снежным ззяннем; Сцяпан зацвярджаны як спецыяліст; пайсці разам з цёткай; пакрыцца змякчэлай цвіллю; падысці знянацку з нізкага берага; змялелае вусце; змірыцца з яго стратай; зменлівае шчасце; змерзнуць у зменным абутку; сціплы і насцярожаны змеялоў; смела змякчаць свісцячыя; пайсці спехам з Пецем; скласці спіс; цвярозы Зміцер; цвіль цвіллю, а цвіценне цвіценнем; скеміць, дзе ёсць скіба; узняць сцяг; госці збіраліся са спазненнем.*

2 У шэрагу выпадкаў у беларускай мове назіраюцца і іншыя несупадзенні ў напісанні і вымаўленні літар і гукаў. Найбольш важныя моманты наступныя:

а). Шыпячыя перад свісцячымі вымаўляюцца як свісцячыя, а свісцячыя перад шыпячымі – як шыпячыя: *у бочцы – у бо**цц**ы, на рэчцы – на рэ**цц**ы, на палічцы – на палі**цц**ы* і *сшытак – **шш**ытак, счапіць – **шч**апіць, зжаць – **жж**аць.* Але моўная практыка сведчыць, што ў некаторых выпадках такога прыпадабнення можа не быць. Напрыклад, не варта ўспрымаць як памылковае вымаўленне шыпячых і свісцячых у наступных словаформах: *пошта – на по**шц**е* (неабавязкова – *на по**сь**це*), *дошка – на до**шц**ы* (неабавязкова – *на до**сц**ы*), *прабачаць – праба**чц**е* (неабавязкова – *праба**цьц**е*), *намазаць – нама**шц**е* (неабавязкова – *нама**сьц**е*). У такіх словаформах можа захоўвацца традыцыйнае асобнае вымаўленне шыпячых і свісцячых, што дазваляе выразна размежаваць значэнне слоў, пазбегнуць верагоднай блытаніны.

б). Спалучэнні **[дч]** і **[тч]** вымаўляецца як падоўжаны гук **[ч]:** *адчапіць –а**чч**апіць, адчыніць – а**чч**ыніць, лётчык – лё**чч**ык, аўтаматчык – аўтама**чч**ык.*

в). Спалучэнне **[шс]** у становішчы паміж галоснымі вымаўляецца як падоўжаны мяккі гук **[сь].** Гэтым правілам ахопліваецца вялікая група зваротных дзеясловаў 2-ой асобы ў адзіночным ліку цяперашнім часе абвесным ладзе: (ты) *мыешся – мые**сьс**я, апранаешся – апранае**сьс**я, б'ешся – б'е**сьс**я, хвалюешся – хвалюе**сьс**я, імкнешся – імкне**сьс**я, злуешся – злуе**сьс**я.*

г). Спалучэнні **[жс], [шс]** у становішчы паміж галосным і зычным вымаўляюцца як адзіночны гук **[с]:** *рыжскі – ры**с**кі, пражскі – пра**с**кі, нясвіжскі – нясві**с**кі, суражскі – сура**с**кі, чэшскі – чэ**с**кі, белавежскі – белаве**с**кі.*

д). Спалучэнні **[дц]** і **[тц]** вымаўляюцца як падоўжаны гук **[ць]** або як падоўжаны цвёрды **[ц]:** *падцёк – па**цьц**ёк, адцягнуцщь – а**цьц**ягнуць* і *адцадзіць –а**цц**адзіць, братцы – бра**цц**ы, Лётцы – Лё**цц**ы.*

е). Спалучэнне **[дс]** вымаўляецца як адзіночны гук **[ц]:** *гарадскі – гара**ц**кі, суседскі – сусе**ц**кі, грамадскі – грама**ц**кі.*

Правільнае вымаўленне названых спалучэнняў гукаў, як паказвае практыка, выклікае пэўныя цяжкасці. Таму паспрабуйце прачытаць наступныя словы і спалучэнні згодна з правіламі літаратурнага вымаўлення: *адчайна, адцэджаны, адцягнуць, парыжскі, загадчык, канадскі, збіраешся, сшыты, вітаешся, зжаты, адчуваць, на печцы, рыхтуешся, чэшскі, счапляць, латышскі, дарадца, злуешся, на кладцы, пераплётчык, спадчына, адціснуць, гарадскі, з жыцця, накіроўваешся, пражскі, на палічцы, адрэжце, па вялікім кошце, праз жыта, імкнешся, смяешся.*

Мы спыніліся толькі на некаторых, найбольш істотных правілах беларускага літаратурнага вымаўлення, бо менавіта тут найчасцей назіраюцца памылкі. Павысіць культуру ўласнага маўлення, у тым ліку добра засвоіць арфаэпічныя нормы можна хіба што праз рэгулярную камунікацыю па-беларуску. Таму варта імкнуцца штодня хаця б па паўгадзіны гаварыць на нашай мове, стараючыся прытрымлівацца літаратурных нормаў. І тады эфект не прымусіць доўга сябе чакаць.

# Роля пачуццяў і эмоцый у жыцці веры

**Святкаванне Велікодных урачыстасцяў – час, калі вернікам дадзена перажыць асаблівыя духоўныя пачуцці: пасхальную радасць і надзею, суцяшэнне і блізкасць "незямной", боскай рэчаіснасці.**

Літургія, святочныя традыцыі, а часта таксама і прырода дапамагаюць нам напоўніцца радаснай верай у перамогу жыцця над смерцю, любові над злом. Але ў першую чаргу такі духоўны настрой ствараецца дзеяннем Божага Духа ў чалавечай душы – той ласкі, без якой звышнатуральнае жыццё немагчымае, без якой мы самі па сабе мала што добрага можам зрабіць. З іншага боку, спяваючы радаснае "Алелюя!" вуснамі і сэрцам, мы не трацім у памяці таго, што перажывалі падчас Вялікага Тыдня: смутак, журбу і жаль, бо наш Пан Езус Хрыстус церпіць пакуты, прымаючы на сябе наступствы зла і падступнай людской жорсткасці.

Замяшанне, разгубленасць, сум і спачуванне таму, хто пакутуе ад болю, – духоўныя пачуцці, таксама натхнёныя Духам Святым перад абліччам усяго таго, што засмучае Божае Сэрца. Але такая ўнутраная рэакцыя на трагедыю зла і граху, перажытая ў Духу, не вядзе да адчаю і роспачы, але адкрывае нас на тую надзею, крыніцай якой можа быць толькі Бог, Адкупіцель і Пераможца над смерцю!

Такім чынам, смутак Вялікай Пятніцы, які доўжыцца ў пакутах усіх ахвяраў гвалту і несправядлівасці сёння, не супярэчыць пасхальнай радасці, але моцай Божага Духа становіцца месцам перамогі надзеі, якая дасягае вечнасці. Супрацьлегласцю гэтым такім, здаецца, розным пачуццям, з'яўляецца абыякавасць да духоўнай рэчаіснасці, поўная засяроджанасць на зямным, матэрыяльным вымярэнні жыцця.

### Пачуцці і вера

Разважанне над нашымі ўнутранымі перажываннямі і рэакцыямі ў гэты Пасхальны літургічны перыяд – добрая нагода, каб паглядзець на ролю пачуццяў і эмоцый у жыцці веры. Існуюць супрацьлеглыя падыходы да гэтай сферы. Для адных вельмі важна "адчуваць" духоўныя рэчы, эмацыйна перажываць свае адносіны з Богам. І калі вера пазбаўленая гэтага вымярэння, яна здаецца мёртвай. Іншыя ж кажуць, што эмоцыі – вельмі зменлівая рэч, "ворагі" розуму і разважлівасці. Яны не могуць служыць падставай для прыняцця рашэнняў і ніяк не сведчаць пра вартасць веры і наогул жыцця. Відавочна, праўда знаходзіцца недзе паміж такімі крайнімі поглядамі.

Пачуцці і эмоцыі – важная частка таго, кім ёсць чалавек, таму не звяртаць на іх увагу – няправільны падыход. З іншага боку, варта імкнуцца да іх раўнавагі і гармоніі з розумам і воляй. Для св. Ігнацыя Лаёлы пачуцці – гэта сфера для распазнавання, то бок для таго, каб акрэсліваць, ці тое, што я адчуваю, мае спантанны ўнутраны рэакцыі (ён іх называе "рухамі"), дапамагае або перашкаджае мне на шляху да Бога, у маіх адносінах з бліжнімі, у здаровым стаўленні да самога сябе. Гаварыць пра пачуцці тым больш важна ў кантэксце веры, бо гэта "памежная" сфера паміж псіхічным і духоўным вымярэннямі чалавечай асобы.

### Пачуццё страху і трывогі

Возьмем для прыкладу такія ўнутраныя рэакцыі, як страх і трывога. Кожны чалавек у больш ці менш інтэнсіўнай ступені ведае гэтыя пачуцці. Асабліва ж яны нам уласцівыя ў перыяды знешніх ці ўнутраных катаклізмаў. Яны з'яўляюцца часткай механізму, які павінен абараніць нас ад небяспекі, але іх непажаданыя наступствы – "тунэльнае мысленне", скажонае ўспрыманне рэчаіснасці, празмерная засяроджанасць на сабе і на пагрозе (рэальнай ці ўяўнай). Страх прымушае чалавека разлічваць толькі на свае сілы і такім чынам вядзе да пачуцця адчужэння ад Бога – крыніцы бяспекі і ўпэўненасці. Таму ў Святым Пісанні словы "не бойся" – гэта адзін з найбольш частых зваротаў Бога да чалавека, гэта запрашэнне засяродзіць сваю ўвагу на Божай прысутнасці, даверыцца Пану. Калі не прызнаваць у сабе страх і трывогу, "адсоўваць" убок са сваёй свядомасці, яны не знікаюць, а дзейнічаюць далей у нашай падсвядомасці. У духу ж веры мы можам шчыра адкрываць Богу ў малітве свой страх, сваю слабасць і прасіць аб паратунку.

Безумоўна, найбольш вымоўны прыклад для нас – Пан Езус, Які моліцца да свайго Айца ў момант перадсмяротнай трывогі ў Гетсіманскім садзе. Кніга Псальмаў – выдатны "падручнік" для нас, каб вучыцца перад Богам пражываць тыя пачуцці, з якім самі не даем рады: не толькі трывогу, але і нянавісць, зайздрасць, злосць… Напрыклад, Пс 116 (115) кажа пра "путы смерці і пакуты пякельныя", якія зведаў аўтар, пра прыніжэнне і страх. Пс 73 (72) кажа пра спакусу зайздрасці, у канцы Пс 139 (138) нечакана выходзіць вонкі нянавісць, а ў наступным Псальме аўтар даручае Богу сваё жаданне помсты… Гэтыя тэксты і іншыя Псальмы – школа шчырай малітвы.

### Пачуццё радасці

Але не толькі негатыўныя пачуцці патрабуюць увагі ў малітве. Радасць, унутраны пад'ём, весялосць і суцяшэнне – гэта нагода, каб звяртацца да Бога з падзякай і праслаўленнем. З іншага боку, да такіх нашых унутраных рэакцый таксама варта прыглядацца і дазваляць Богу іх ачышчаць. Радасць можа быць павярхоўнай, звязанай з нейкім задавальненнем, поспехамі, тым, як у нас усё добра складваецца… Па сваім досведзе мы ведаем, што такая радасць хутка можа знікнуць, калі знешні стан рэчаў змяняецца. Радасць жа духоўная – больш глыбокая, яна мае крыніцу не ў знешніх рэчах, якія мінаюць, а ў самым Богу, Каторы дакранаецца сваёй ласкай душы, нагадваючы пра нашу несмяротную сутнасць. Такую радасць варта больш цаніць, "каштаваць" і напаўняцца ёю, стараючыся не траціць яе на прасторах шэрай штодзённасці.

Гаворачы пра нашыя ўнутраныя духоўныя станы, узгадаем урок св. Ігнацыя пра тыя перыяды, калі мы адчуваем сябе пакінутымі Богам і прыгнечанымі. Настаўнік духоўнасці вучыць, што пачуццё пакінутасці не адпавядае рэальнаму стану рэчаў, бо Бог ніколі не пакідае сваіх вернікаў. Але такі час можа стаць вельмі плённым перыядам росту і ачышчэння ад нашых неўпарадкаваных схільнасцяў. Калі ж мы знаходзімся ў стане духоўнага суцяшэння і радасці, тады з пакорай трэба памятаць, што такія пачуцці – гэта Божы дар, а не паходзяць ад нас, і што можа прыйсці момант, калі мы будзем пазбаўленыя на некаторы час такой ласкі. Сфера ўнутраных "рухаў" – гэта захапляльны сусвет, праз які Божы Дух прамаўляе да нас, таму варта вучыцца правільна разумець, што Пан хоча нам сказаць.

Будзем жа вучыцца раскрываць перад Богам усё тое, што адбываецца ў нашай душы, дазваляючы Духу Святому фарміраваць нашыя пачуцці і эмоцыі паводле адчуванняў Божага Сэрца!

***Айцец Віктар Жук SJ***
*г. Віцебск*

# У Валкалаце развіталіся са спачылым айцом Пятром Ясевічам OFMCap

**31 сакавіка пры касцёле святога Яна Хрысціцеля ў Валкалаце (Докшыцкі дэканат) адбылося пахаванне а. Пятра Ясевіча, капуцына, які ў 1988 – 2009 гадах быў пробашчам гэтай парафіі, а пасля па стане здароўя аж да самай смерці заставаўся там святаром-рэзідэнтам.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота;* **Леанід Юрык**, *відэа*

Айцец Пётр нарадзіўся 29 чэрвеня 1941 года на Ашмяншчыне. Тэалагічную адукацыю атрымліваў у Рыжскай духоўнай семінарыі. Святарскае пасвячэнне прыняў 31 мая 1987 года ў Рызе. Уступіў у ордэн айцоў-капуцынаў, склаўшы 24 чэрвеня 1984 года манаскія абяцанні ў Ліпнішках. Адзін з найстарэйшых святароў, які стаяў ля вытокаў адраджэння Касцёла ў Беларусі, ля вытокаў адраджэння манаскай супольнасці капуцынаў.

Цэлебрацыю пахавальнай св. Імшы ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Прысутнічалі таксама арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі, кс. пралат Эдмунд Даўгіловіч-Навіцкі, генеральны вікарый Віцебскай дыяцэзіі кс. пралат Францішак Кісель, кусташ айцоў-капуцынаў а. Андрэй Букштан, святары, браты-капуцыны, сёстры законныя, родныя і блізкія спачылага святара.

У гэты дзень у святыні было таксама шмат вернікаў, якія прыйшлі падзякаваць свайму душпастыру за служэнне, бо спачылы заставаўся пастырам да апошняга дня свайго жыцця.

У слове на пачатку літургіі біскуп Алег падкрэсліў, што "айцец Пётр – чалавек, які, адкрыўшы святарскае пакліканне ў той нялёгкі час пераследу Касцёла, верна выканаў сваё святарскае заданне. Сёння мы просім пра ўзнагароду для яго, бо ведаем і перакананыя, што ён яе заслужыў адданым святарскім жыццём, малітвай і цярпеннем".

Гамілію прамовіў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Іерарх адзначыў, што ў памяці вернікаў спачылы застанецца як чалавек, каторы абвяшчаў Божае слова простай мовай у тыя часы, калі гэта было забаронена. Да яго ўсе ішлі і хацелі слухаць. Гэта сведчыць пра тое, што яго вельмі любілі. Ён меў адкрытае сэрца, прамаўляў не толькі вуснамі, але і сэрцам. Вучыў як умеў, як мог, як дазвалялі абставіны. Умеў знайсці слова для кожнага чалавека, і ў гэтым простым слове гучала Божае слова. Такая вялікая адметнасць а. Пятра.

"Можна дзівіцца, як ён умеў кіраваць народам Божым – у любові і служэнні. Не як валадар, як загадчык ці брыгадзір, але як той, хто наследаваў Езуса, бо Езус прыйшоў не для таго, каб яму служылі, але каб служыць. І гэтым самым а. Пётр заслужыў пашану ў людзей, пашану ў святароў, у сваёй манаскай супольнасці капуцынаў", – падкрэсліў арцыбіскуп.

На заканчэнне пахавальнай св. Імшы сваімі ўспамінамі пра жыццё, служэнне, пакору і малітву а. Пятра Ясевіча падзяліліся некаторыя прысутныя святары.

Пасля Імшы цела памерлага святара было пахаванае каля касцёла, у якім больш за трыццаць гадоў ён служыў.

*Поўная відэаверсія пахавання:*





# Справляемся с тревогой: способы самопомощи

**Тревога... Сегодня не найдется человека, кого бы она не затронула. Этому способствуют как события, происходящие в мире, так и повседневные, уже «привычные» поводы для стресса. Люди всегда плохо переносят ситуации, которые не могут контролировать. Состояние неопределенности вызывает различную симптоматику: от обычного волнения до обострения хронических заболеваний, различных психосоматических проявлений: приступов удушья, болевого синдрома. Может дойти даже до сердечного приступа. При этом важно понимать, что реакция на стресс у каждого из нас проявляется по-разному, независимо от силы стрессового фактора. Например, кто-то может потревожиться и заняться своими обычными делами, а кого-то стресс буквально парализует и выбивает из привычного жизненного ритма.**

**Марина Ткач**, *психолог*

В нашем менталитете существует одна особенность: как правило, такие негативные эмоции, как страх, стыд, вина, злость, агрессия принято прятать. Желательно вообще задвинуть их в самый дальний угол нашей психики, и таким образом сделать вид, что со мной все в порядке. А вот обратиться за помощью к специалистам, начать принимать препараты считается показателем, что человек «не справляется» и моментально попадает в категорию «ненормального». В действительности, с точки зрения многих специалистов, внимательное отношение к собственному психоэмоциональному состоянию говорит об адекватности человека, о способности трезво оценивать ситуацию и вовремя себе помочь.

Исходя из этого, каждому из нас важно владеть приемами психологической разгрузки, позволяющими вернуть самообладание и снизить интенсивность эмоций до приемлемого уровня.

Как справиться с чувством тревоги?

**Признаем эмоции.** В момент, когда человек признает свою эмоцию, он вступает в контакт с самим собой и понимает: «У меня есть чувства, я живой и это нормально – испытывать такие чувства в подобных ситуациях». Нужно постараться «достать из себя» негативные эмоции, которые вас разрушают. В этом могут помочь различные практики, например, такие, как арт-терапия и танцетерапия. Здесь мы представляем свои эмоции в виде чего-то образного. Они становятся объектами, а значит, мы можем ими управлять.

**Признаем, что мы не можем контролировать ситуацию.** Часто тревога работает как показатель того, что мы не в состоянии что-либо контролировать. У взрослого человека всегда есть иллюзия контроля. Потому что нам кажется: мы составили план на будущий год, расписание на неделю, значит, все так и будет. Но есть множество факторов, помимо серьезных и страшных, из-за чего все может пойти совсем не так. Единственное, что мы действительно можем контролировать, – это собственное тело, самочувствие и жизнь «здесь и сейчас». А все, что происходит вокруг нас, в стране, мире – это не наша зона контроля, просто по умолчанию мы не можем глобально все контролировать.

**Выбрасываем накопленный кортизол (гормон стресса).** Рассматривая чувство тревоги на гормональном уровне, стоит отметить, что за него в нашем организме отвечает гормон кортизол. И у него есть одно свойство, о котором важно помнить, – он расходуется через движение. Невозможно сидеть на стуле и при этом пытаться успокоиться. Лучше всего бегать, прыгать, петь и даже плакать – все это отличный способ сбросить накопившееся напряжение.

**Задействуем правое и левое полушария головного мозга.** Быстрый и достаточно легкий способ, помогающий справиться с тревогой, связан с понятием «билатеральная стимуляция». Здесь поочередно задействуются правое и левое полушария головного мозга. Что для этого нужно? Скрестите руки на груди, положите ладони на плечи и начните похлопывать себя одновременно двумя руками. В этот момент оба полушария начинают работать в таком режиме, что наступает некий сброс лишнего напряжения и наше состояние меняется. Глобально, конечно, отношение к стрессовой ситуации не изменится, но наше состояние – да. При этом можно заметить, как на лице появляется легкий румянец.

**Расширяйте мышление.** Наш мозг так устроен, что стремится к обобщению, потому что он не может охватить все происходящее вокруг – это слишком большой объем информации для него. Поэтому из общего потока информации он выхватывает определенные моменты. Зная про эту особенность, старайтесь в потоке негативной и тревожащей вас информации находить также и позитивные моменты. Поверьте, они там есть, нужно просто заставить мозг «увидеть» их. Еще, например, можно взять за правило: посмотрев новостной канал, обязательно после посмотреть передачу про садоводство, рыбалку или то, что отвечает вашим увлечениям. Тем самым расширив наше мышление до уровня восприятия позитивных моментов жизни.



**Информационное пространство и социальные сети.** Ограничьте время посещения социальных сетей. Здесь необходимо соблюдать дисциплину: перед тем, как читать новости и соцсети, выберите допустимый временной интервал, например, полчаса, которые вы потратите на чтение и комментарии. Этого будет вполне достаточно, чтобы выяснить картину событий на настоящий момент. После этого займитесь любой физической активностью, подышите свежим воздухом. Все это поможет вам оставаться на плову. Но и уходить в полную информационную изоляцию также не стоит: переживать в изоляции стресс гораздо сложнее. Здесь важна золотая середина.

**Не лишайте себя удовольствия.** Гормон удовольствия (дофамин) работает как топливо в нашем организме. И если мы в стрессовой ситуации отказываемся от нашего топлива, то функционировать становится особенно тяжело. Старайтесь максимально чувствовать жизнь. Для этого не отказывайте себе в различного рода удовольствиях, например, ешьте вкусную еду из красивой посуды, ходите в кино и в музеи, встречайтесь с друзьями. В общем, живите!

**Чаще смейтесь.** Глубокий, искренний смех поднимет настроение в любой ситуации. Он снижает уровень гормонов стресса, таких, как кортизол и адреналин, одновременно повышая активность «гормонов радости», в частности, эндорфинов. Анекдоты, смешные картинки и видео, комедии, юмористические рассказы – эффективные, простые и доступные методы борьбы со стрессом.

В сложных жизненных ситуациях, в состоянии стресса и тревоги важно помнить, что все в жизни рано или поздно заканчивается. Закончится и это. Главное – не забывать заботиться о себе!

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Сафія Юковіч** *(Сарокі)*, **Тэрэса Лешчык** *(Сарокі)*, **Станіслава Рагожкіна** *(Пліса)*, **Рэгіна Ціхая** *(Камарова)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **Сцепаніда Грэцкая** *(Вазоўнікі)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Тэрэса Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Зенона Алькс👍нін** *(Браслаў)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Ядвіга Будзіч** *(Буяўшчына)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Тэрэса Рулевіч** *(Браслаў)*, **Марыя Лубнеўская** *(Мядзел)*, **Тамара Супко** *(Цешалава)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Салаўёва Н.Н.** *(Дворнае Сяло)*, **Галіна Каспяровіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Галіна Далгашэй** *(Ашмяны)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Антаніна Станкевіч** *(Валожын)*, **Клемянціна Крымская** *(Наваполацк)*, **рух “Маці ў малітве”** *(Камаі)*, **Марыя Лубнеўская** *(Мядзел)*, **Балеслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Данута Міхайлоўская** *(Мураваная Ашмянка)*, **Таццяна Шук** *(Лявонпаль)*, **Леакадзія Лаўнюжонак** *(Новыя Габы)*, **Аніцэта Пілецкая** *(Новалукомль)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Аліна Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф’я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Міхаіл Дуброўскі** *(Нагаўкі)*, **Ядвіга Цорах** *(Мілты)*, **Лёнгіна Рагіня** *(Мілты)*, **Яніна Рагіня** *(Муцеўшчына)*, **Ядвіга Жолнер** *(Муцеўшчына)*, **Часлава Паўлючонак** *(Студзяніца)*, **Ванда Кірылава** *(Ёды)*, **Марыя Рачыцкая** *(Шаркаўшчына)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Соф’я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Валерыя Шакель** *(Друйск)*, **Галіна Цігіна** *(Камарова)*, **Тэрэса Балтромун** *(Бастуны)*, **Аліцыя Лазоўская** *(Гродна)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Генадзь Маркоўскі** *(Маладзечна)*, **Гаўрыльчык Н.В.** *(Падсвілле)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Часлаў Клімовіч** *(Мядзел)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Валянціна Курта** *(Луцк-Казлоўскі)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб’е)*, **Данута Мігун** *(Крэйванцы)*, **Раіса Казаровец** *(Варапаева)*, **Вашкель Р.М.** *(Дворнае Сяло)*, **рух “Маці ў малітве”** *(Відзы)*, **Вацлаў Пашкевіч** *(Бігосава)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Вераніка Васілеўская** *(Вялікае Абаб’е)*, **Леакадзія Кашчыц** *(Ашмяны)*, **Алімпія Цішко** *(Старыя Габы)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Алена Ціннікава** *(Мінск)*, **Анеля Кашкур** *(Павяцце)*, **парафіяне з Ёдаў**, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Віктар і Гэлена Рэйшэль** *(Петрашэўцы)*, **Людміла Война** *(Глыбокае)*, **Валянціна Рыбак** *(Гомель)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Леангіна Давыдзёнак** *(Усце)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Ванда Усціновіч** *(Януковічы)*, **Марыя Сяліцкая** *(Параф’янава)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб’е)*, **Данута Голубева** *(Бабінавічы)*, **Ганна Старычонак** *(Бярозкі)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Вярцінская М.Б.** *(Вярцінскія)*, **Крысціна Цярэнцьева** *(Браслаў)*, **Станіслава Пятліцкая** *(Баранавічы)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Марыя Харнікава** *(Навасады)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”***

# Некалькі велікодных паштовак з БССР

**Забарона рэлігійнай прапаганды ў СССР ахоплівала ўсе кірункі і датычыла таксама друкаванай прадукцыі. Ніякія выданні, якія маглі б садзейнічаць рэлігійнасці насельніцтва, не друкаваліся для шырокіх масаў, і, адпаведна, не з'яўляліся ў продажы. Разам з гэтым рэлігійныя традыцыі працягвалі захоўвацца ў асяроддзі вернікаў і духавенства ўсіх канфесій. Адпаведна захоўваліся традыцыі і жаданне павіншаваць родных, блізкіх, сяброў і знаёмых з найважнейшымі святамі больш прыгожа, чым проста лістом.**

■ **Раіса Зянюк**

Традыцыйна для пісьмовых віншаванняў выкарыстоўваліся паштоўкі. Паколькі тэматычных паштовак не было, заставаліся два шляхі: выкарыстаць наяўныя, прыгожа аздобленыя і нейтральныя адносна календара, альбо заняцца творчасцю і стварыць уласныя.

І такім першым шляхам – выкарыстання наяўных паштовак – пайшла беларуская паэтка Ларыса Геніюш у сваім ліставанні з ксяндзом Міхалам Варанецкім СМ, які ў пасляваенны час працаваў у Ружанах.

Напрыклад, у 1977 г. паэтка выкарыстала паштоўку з букетам летніх кветак, якую падпісала наступным чынам "Zelwa 1977. Wielebny Ojcze! Zasyłamy Ojcu serdeczne życzenia Wesołych Swiąt! Wielkanoc, największe święto Słowian niech będzie Ojcu radosnym i pełnym jasnych nadziei! Z szacunkiem Geniuszowie. (*Вялебны Ойча! Дасылаем Айцу сардэчныя пажаданні Радасных Святаў! Вялікдзень, найвялікшае свята славян, няхай будзе Айцу радасным і поўным ясных спадзяванняў! З пашанай, Геніюшы*)" (фота 1, 1а).

У 1978 г. Ларыса Геніюш віншавала кс. Міхала Варанецкага з Вялікаднем паштоўкай з выявай хрызантэмаў. Надпіс на адвароце быў наступны:"Zelwa 1978. Serdecznie winszujemy drogiego Ojca ze Świętem Pańskiego Zmartwychwstania! Z miłością do Ojca i głębokim szacunkiem. Geniuszowie. (*Сардэчна віншуем дарагога Айца са Святам Уваскрасення Пана! З любоўю да Айца і глыбокай пашанай, Геніюшы)*". Віншаванні дадаваліся і ў лісце, прыкладзеным да паштоўкі, дзе паэтка пісала: "Życzymy Ojcu Wesołych Świąt! Dobrego zdrowia, radości z pracy szlachetnej i wzniosłej, pogody ducha w dzień Pańskiego Zmartwychwstania i zawsze! (*Жадаем Айцу Вясёлых Святаў! Добрага здароўя, радасці з працы шляхетнай і ўзнёслай, добрага настрою ў дзень Уваскрасення Пана і заўсёды!*)" (фота 2, 2а).

У 1981 г. віншавальная паштоўка традыцыйна была з кветкамі. Ларыса Геніюш зычыла кс. Міхалу: "Zelwa, 12/IV.1981 г. Drogi i wielebny Ojcze! Witam Ojca ze świętem Pańskiego Zmartwychwstania. Wesołych Świąt życzę Ojcu i dobrego zdrowia. (*Дарагі і вялебны Ойча! Вітаю Айца са святам Божага Уваскрасення! Радасных святаў жадаю Айцу і добрага здароўя*)" (фота 3).

Паштоўкай з выявай кветак віншавала паэтка святара і ў 1982 г. Яна падпісала паштоўку так: "Zelwa 1982. Serdecznie witam drogiego Ojca Michała ze wspaniałym świętem Wielkanocy! Wesołych Świąt, wielebny Ojcze! Niech te święta przyniosą radość i duchowe ozdrowienie wszystkim ludziom pragnącym pokoju, prawdy i łaski Bożej najświętszej ze wszystkich łask! Хрыстос Уваскрос! Л. Геніюш (*Сардэчна віншую дарагога Айца Міхала з цудоўным святам Вялікадня! Вясёлых святаў, вялебны Ойча! Няхай гэтыя святы прынясуць радасць і духоўнае аздараўленне ўсім людзям, якія прагнуць супакою, праўды і ласкі Божай, найсвяцейшай з усіх ласкаў! Хрыстос Уваскрос! Л. Геніюш)*" (фота 4, 4а).


1


Zelwa 1977 r.
Wielebny Ojcze Zasyłamy Ojcu serdeczne życzenia Wesołych Świąt! Wielkanoc, największe święto Słowian niech będzie Ojcu radosnym i pełnym jasnych nadziei! Z szacunkiem Geniuszowie.

1а


2


Zelwa 1978 r.
Serdecznie winszujemy drogiego Ojca ze Świętem Pańskiego Zmartwychwstania! Z miłością do Ojca i głębokim szacunkiem Geniuszowie.

2а



4


Zelwa 1982 r.
Serdecznie witam drogiego Ojca Michała ze wspaniałym świętem Wielkanocy! Wesołych Świąt, wielebny Ojcze! Niech te święta przyniosą radość i duchowe ozdrowienie wszystkim ludziom pragnącym pokoju, prawdy, łaski Bożej najświętszej ze wszystkich łask! Христос Уваскрос!! Л. Геніюш

4а



5



6


Najserdeczniejsze życzenia spokojnych i radosnych Świąt Zmartwychwstania Pańskiego zdrowia i owocnej wychowawczej pracy
przesyła
1981 r. Mscibów. Ks. K. Walentynowicz

6а

Другім шляхам – стварэння ўласных паштовак – пайшлі некаторыя святары. Адным з іх быў ксёндз Чэслаў Барвіцкі, які працаваў у Лучаі ў 1944 – 1948 гг., быў арыштаваны, знаходзіўся ў лагерах і пасля вызвалення ў 1956 г. вярнуўся ў Лучай. Там не змог атрымаць рэгістрацыі і выехаў у Польшчу ў 1958 г. Кс. Барвіцкі быў мастаком, і таму не дзіўна, што паштоўкі праз іх адсутнасць у продажы ствараў уласныя. Прыклад адной з іх далучаны да публікацыі. Можна казаць, што паштоўка стваралася з гумарам, і меркаваць, што святар зрабіў некалькі копій гэтай паштоўкі для таго, каб дасылаць знаёмым. У парафіяльным архіве ў Лучаі захоўваецца непадпісаны варыянт (фота 5).

Яшчэ адна паштоўка, створаная ўласнымі рукамі, належыць ксяндзу Казіміру Валентыновічу (1899 – 1984). Пачынаючы з 1944 г., ён працаваў у Мсцібаве. Паштоўку стварыў і даслаў у Польшчу, у Беласток, ксяндзу Станіславу Галадку. Віншаванні, змешчаныя на адвароце, гучалі наступным чынам: "Najserdeczniejsze życzenia spokojnych i radosnych Świąt Zmartywychwstania Pańskiego zdrowia i owocnej wychowawczej pracy przesyła ks. K. Walentynowicz, 1981 r. Mscibów (Самыя шчырыя пажаданні спакойных і радасных святаў Уваскрасення Пана, здароўя і плённай выхаваўчай працы дасылае кс. К. Валентыновіч, 1981 г., Мсцібаў)" (фота 6,6а).

*Пры падрыхтоўцы публікацыі выкарыстаны матэрыялы парафіяльнага архіва ў Лучаі, Архіва ксяндзоў-місіянераў у Кракаве, Архідыяцэзіяльнага архіва ў Беластоку.*

*Лісты Ларысы Геніюш да кс. М. Варанецкага апублікаваны Р. Зянюк у альманаху "Асоба і час", 2018 №8.*



3

# Такім ён застанецца ў нашай памяці…

**Памяці ксяндза-каноніка Уладаса Пятрайціса (20.01.1955 – 09.05.2012)**



Як хутка бяжыць час!.. Памяць чалавека валодае фенаменальнай уласцівасцю: з гадамі яна захоўвае самыя яркія падзеі нашага жыцця. І нават пад прыгнётам часу гэтыя ўспаміны не трацяць сваёй эмацыянальнасці, вастрыні ад перажытага…

Мінула ўжо дзесяць гадоў, як няма сярод нас вялікага Чалавека, сапраўднага Пастыра, ксяндза-каноніка Уладаса Пятрайціса – былога шматгадовага пробашча Мёрскай парафіі, пазней пробашча Слабодкаўскай парафіі і адміністратара Ікazненскай парафіі.

Ён пакінуў нас вясною, калі наваколле канчаткова абудзілася ад зімовага сну, ажыла прырода, патанула ў квецені зямля, а шчодрае майскае сонца падкрэслівала хараство жыцця. 9 мая 2012 г. у Іказні яго вялікае, добрае сэрца спынілася назаўсёды. І вернікі страцілі добразычлівага, душэўнага святара.

Ксёндз Уладас Пятрайціс вельмі любіў май. І не дзіва, бо 14 мая 1985 г. атрымаў у Літве святарскае пасвячэнне. І так сталася, што яго зямны шлях таксама закончыўся ў квітнеючым маі, за некалькі дзён да 27-годдзя святарства. Смерць ксяндза Уладаса Пятрайціса – вялікая страта!

Але і сёння ні яго імя, ні яго добрыя справы не забытыя. Ксяндза паважаюць і памятаюць тыя, каму пашчасціла жыць побач з ім і слухаць слова Божае з яго вуснаў.

У 1985 годзе з Літвы ксёндз Уладас Пятрайціс, малады, але ўжо цвёрды ў веры, паслухмяны Божай волі і прынцыповы ў яе выкананні, прыехаў на Мёршчыну і пачаў усе свае сілы і веды аддаваць Касцёлу і людзям. Яго палюбілі адразу, калі ён з прыязнай, светлай усмешкай выйшаў да алтара на сваю першую Імшу ў Мёрах у лістападзе 1985 года.

Несумненны талент прамоўцы маладога ксяндза прывёў да прыкметнага росту вернікаў. Адразу ён стаў наведваць навакольныя населеныя пункты, сістэмна аб`язджаў вёскі, знаходзіў час наведваць касцёл у Ідолце, цэлебраваць святыя Імшы ў Лявонпалі, Вяце, Друі, Верхнядзвінску, Дзісне. На Мёршчыне былі дзве святыні: у самых Мёрах і Ідолце. Каля дзесяці парафій тады не мелі святароў і святынь, і людзі са сваімі духоўнымі патрабаваннямі звярталіся да кс. Пятрайціса, а ён аддана служыў усім, забываючы пра адпачынак.

З Уладасам Пятрайцісам звязаная цэлая эпоха. Ён пакінуў яркі след у каталіцкім жыцці Мёршчыны. Ксёндз хрысціў, удзяляў першую Святую Камунію, вянчаў, спавядаў, здзяйсняў абрады пахавання. Ні адна важная падзея на Мёршчыне не абыходзілася без яго ўдзелу. З 1985 г. па 2000 г. ён быў пробашчам, а пазней і дэканам Мёрскага касцёла. Пры ім на ахвяраванні вернікаў каля касцёла быў пастаўлены адзіны ў Еўропе помнік ненароджанаму дзіцяці. У 1998 годзе таксама на ахвяраванні вернікаў устанавілі манументальную скульптуру Маці Божай з Дзіцяткам Езусам. На новых парафіяльных могілках у Мёрах пабудавалі капліцу. Нястомна ксёндз займаўся адраджэннем касцёла ў Лявонпалі і касцёла-капліцы ў вёсцы Вята.

Святар умеў бачыць прыгожае ў наваколлі. Літовец па нацыянальнасці, ён палюбіў беларускую зямлю. Углядаючыся ў маляўнічыя краявіды Лявонпаля, ксёндз Уладас казаў: “Як тут хораша, як лёгка тут дыхаецца! Як жа я люблю гэтае прыгожае месца з такой багатай гісторыяй! А галоўнае багацце – гэта людзі, якія жылі і жывуць на гэтай зямлі…” Гадаваў розных птушак і вельмі любіў папугаяў, вырошчваў шмат кветак. Асабліва падабаліся яму жоўтыя лілеі і лілейнікі, а ў памяшканні аддаваў перавагу пальмам, кактусам і агавам.

Ён умацоўваў веру каталікоў і навяртаў заблудных ва ўлонне касцёла. Ксёндз добра спяваў, пісаў вершы, ведаў некалькі замежных моваў. Святар быў таленавітым пастырам з моцнай верай і надзеяй, які не шкадаваў сябе для іншых. І так было да апошняй хвіліны жыцця.



Ксёндз Уладас Пятрайціс, па ўспамінах людзей, што яго добра ведалі, валодаў нястомнай энергіяй. Ён арганізоўваў пілігрымкі, праводзіў заняткі з дзецьмі, захапляў моладзь, адраджаў веру на нашай беларускай зямлі, заўсёды штосьці будаваў і рамантаваў, пісаў вершы, выдаваў газету “Голас душы”.

Напэўна, у тым, што цяпер у Мёрах такая моцная парафія і такая вялікая колькасць актыўных вернікаў, ёсць немалая заслуга малітваў і намаганняў ксяндза Уладаса Пятрайціса, яго прыклад вернасці Богу і Касцёлу. І сёння ксяндза памятаюць і паважаюць, успамінаюць як таленавітага святара са шчырай малітвай, высокаадукаванага чалавека з бязмежным аптымізмам, унікальнага псіхолага.

Ксёндз Уладас Пятрайціс атуляў сваёй пастырскай апекай усіх нас, сваіх парафіян. Любіў Мёршчыну. Тут прайшлі найлепшыя гады яго жыцця, тут было шмат дасягненняў. Ксёндз любіў сваіх слабодкаўскіх парафіян, быў без меры ўдзячны сваім ласкавым і клапатлівым суседзям у Слабодцы, а таксама закрыстыяну і яго сям`і з Іказні. А з якім замілаваннем гаварыў пра сваіх парафіян з Іказні! Казаў: ”Якія цудоўныя і добрыя людзі жывуць у Іказні!” Нават з уласцівым яму гумарам не раз называў сваіх парафіян з Іказні святымі. Растлумачваў, што парафія налічвала 120 вернікаў, а ў касцёл на святы і ўрачыстасці збіраецца 90 адсоткаў парафіян. З захапленнем казаў: “Дзе ж яшчэ можна знайсці такую парафію!”

Не забываюцца яго казанні, яго словы. Вучыў: “Ні з кім не параўноўвайце сябе, толькі з Езусам Хрыстом”!

На Свята Уваскрасення Збаўцы нашага Езуса Хрыста з цеплынёй у сэрцы ўспамінаем, як падчас працэсіі асаблівым голасам ксяндза гучала мелодыя “Wesoły nam dziś dzień nastał”, і якім асабліва кранальным было адчуванне блізкага Свята, і як з нецярпеннем чакалі, калі ксёндз Уладас з духоўным энтузіязмам і незвычайнай радасцю на розных мовах паведаміць нам, яго парафіянам, таямнічую з глыбіні вякоў ісціну:

*“Хрыстос ўваскрос!*
*Христос воскрес!*
*Chrystus zmartwychwstał!”*

Ксёндз Уладас меў асаблівае пачуццё гумару і да сябе, і да тых, хто аказваўся побач. Ён быў адкрытым, прыветлівым, эрудаваным чалавекам, з ім было прыемна мець зносіны па пытаннях, якія тычыліся і касцельных спраў, і любых іншых.

Гэта быў святар незвычайны. Ён першым стаў праводзіць Імшу па-беларуску. Усіх людзей паважаў і цаніў. Пра сябе ён казаў вельмі сціпла. Ён не скардзіўся – ні на абставіны, ні на хваробы. Заўжды са шчырай і добразычлівай усмешкай, таму здавалася, быццам не меў цяжкасцей у жыцці, хоць цярпенне і накрэсліла свае рысы на твары.

Ксёндз заўсёды спяшаўся. Спяшаўся жыць, працаваць, служыць Богу і людзям. Сапраўды, Божыя планы часта пераўзыходзяць чалавечае разуменне. Здавалася, што ксёндз яшчэ поўны энергіі і не паддасца хваробам. Бясспрэчна, Бог любіў яго, але даў яму кароткае жыццё, насычанае зместам, здзейсненымі задумамі і справам.

Светлы вобраз ксяндза Уладаса Пятрайціса, захаваны ва ўспамінах тых, хто яго ведаў і паважаў, хай застанецца ў нашых сэрцах і будзе для нас суцяшэннем і надзеяй!

Для хрысціян Ён застанецца ў памяці як добры і ўважлівы Пастыр. І будуць дапамагаць нам малітвы ў небе ксяндза Уладзіслава за нас.

Найлепшай памяццю для светлай асобы будзе працяг усіх светлых і добрых спраў, якія ён паспеў здзейсніць у сваім надзвычай мудрым, кароткім жыцці.

Яго словы, справы і малітвы да Бога заўжды былі аб людзях. Сёння мы ўзносім нашыя малітвы да Бога аб Ім і верым у яго заступніцтва за нас перад Панам Богам!

Просім, каб міласэрны Хрыстус узнагародзіў ксяндза-каноніка Уладаса Пятрайціса ў сваім Валадарстве!

Вечны адпачынак дай яму, Пане!

*З глыбокім жалем*
*і малітвай ад імя яго*
*былых парафіян,*
***Алена Сакалоўская***





# Не марнуй скарбу цярпення!



Калі ў тваім жыцці здараецца цярпенне, то памятай, што адразу трэба ахвяраваць яго Богу, яднаючыся з цярпеннем Езуса на крыжы. Тады цярпенне не будзе цябе знішчаць, але стане вялікай ласкай. Нішто так не адкрывае чалавека на Бога і нішто яго так не можа перамяніць, як бескарысны дар цярпення. Таму няхай ніхто не марнуе самай малой магчымасці ахвяраваць Богу кожнае духоўнае і фізічнае цярпенне.

Каб ахвяраваць свае цярпенне, гэта значыць, з'яднацца з цярпеннем Езуса на крыжы, можна выкарыстаць наступную малітву:

– Пане Езу! Спалучаю свае цярпенне з Тваім цярпеннем. Усяго сябе, мой боль фізічны і духоўны, змяшчаю ў Тваіх ранах, бо ў іх ёсць маё аздараўленне. Амэн!

## На май прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1** мая – імяніны адзначае **кс. Алег Зямчонак** *(Віцебск)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць: **кс. Андрэй Кулік** *(Мёры)*, **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*, **кс. Генадзь Добрук** *(Гродзенская дыяцэзія)*, **кс. Эдуард Сінкевіч SCJ** *(Варапаева)*;

**2** мая – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Чэслаў Курэчка MIC** *(Росіца)*;

**3** мая – імяніны адзначаюць **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*, **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*, **ксёндз пралат Аляксандр Рагіня** *(Аргенціна)*, **ксёндз канонік Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*, **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Росіца)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Іван Кароткін** *(Наваполацк)*;

**8** мая – імяніны адзначаюць **кс. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(Талачын)*, **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Бандаронак Віталій OFMCap** *(Докшыцы)*;

**9** мая – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*

**12** мая – дзень нараджэння адзначае **а. Віктар Жук SJ** *(Віцебск)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(Талачын)*;

**13** мая – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Канстанцінава)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **біскуп Алег Буткевіч**, **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*, **ксёндз канонік Вячаслаў Барок** *(Расоны)*, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*, **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*, **а. Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*;

**14** мая – дзень нараджэння адзначае **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Параф'янава)*;

**15** мая – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **ксёндз канонік Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, **кс. Генадзь Рэйшаль** *(Шаркаўшчына)*, **кс. Ігнат Санюта** *(Ірландыя)*, **кс. Міхал Татарэнка** *(Польшча)*;

**16** мая – імяніны адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Канстанцінава)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*;

**18** мая – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **ксёндз пралат Аляксандр Рагіня** *(Аргенціна)*;

**19** мая – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*, **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*;

**20** мая – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*, **кс. Зэнон Шчонхар MS** *(Відзы)*;

**21** мая – імяніны адзначае **кс. Яўгеній Шымановіч** *(Орша)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*;

**22** мая – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Вадзім Прасяной SCJ** *(Паставы)*, **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**23** мая - гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Ілля Саўчанка MIC** *(Орша)*, кс. Яўген Шымановіч *(Орша)*;

**24** мая – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Крыштаф Коц'ян OP** *(Віцебск)*;

**25** мая – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**;

**26** мая – дзень нараджэння адзначае **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*; імяніны адзначае **кс. Генадзь Рэйшаль** *(Шаркаўшчына)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*, **кс. Віталь Бяленік** *(Падсвілле)*;

**27** мая - гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Зміцер Грышан** *(Віцебск)*;

**29** мая – дзень нараджэння адзначае **ксёндз канонік Яцэк Хутман** *(Камаі)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Андрэй Вашчук SDS** *(Віцебск)*, **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*;

**30** мая – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*, імяніны адзначае **кс. Генадзь Добрук** *(Гродзенская дыяцэзія)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*;

**31** мая – дзень нараджэння адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**, гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **ксёндз пралат Францішак Кісель** *(Полацк)*; **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Арфеева***



# Тэст на "Б"

**У Беларусі шмат каталіцкіх мясцовасцей, назва якіх пачынаецца на літару "Б". Пры праходжанні новага тэсту будзьце ўважлівымі і выберыце па адным правільным адказе да кожнага пытання!**

**1 Катэхетычны каледж імя Зыгмунта Лазінскага — свецкая каталіцкая навучальная ўстанова знаходзіцца ў ...**



**А.** Бабруйску;
**Б.** Баранавічах;
**В.** Брэсце.

**2 Горад, у якім няма санктуарыя Маці Божай?**



**А.** Будслаў;
**Б.** Браслаў;
**В.** Быхаў.

**3 Месца нараджэння біскупа Алега Буткевіча?**



**А.** Бярозаўка;
**Б.** Беразіно;
**В.** Браслаў.

**4 Назва мясцовасці, дзе 2 ліпеня 1998 года адбылася каранацыя абраза Маці Божай, якая была здзейснена кардыналам Казімірам Свёнткам.**



**А.** Браслаў;
**Б.** Будслаў;
**В.** Бешанковічы.

**5 Перад Вамі абраз Маці Божай...**



**А.** Бялыніцкай;
**Б.** Быстрыцкай;
**В.** Барысаўскай.

**6 Вёска, у якой знаходзіцца гэты цудоўны абраз Маці Божай?**



**А.** Бердаўка;
**Б.** Баруны;
**В.** Белагруда.

**7 У гэтай мясцовасці пры каталіцкай парафіі працуе Цэнтр "Светач", дзе аказваюць дапамогу залежным ад алкаголю і наркотыкаў.**



**А.** Бігосава;
**Б.** Бягомль;
**В.** Боркавічы.

**8 Беларускі культурна-рэлігійны каталіцкі часопіс "Дыялог" выдаецца ў...**




**А.** Баранавічах;
**Б.** Барсуках;
**В.** Бабруйску.

**9 З прапанаваных адказаў выберыце горад, дзе знаходзіцца славуты цудамі абраз Маці Божай – копія абраза Маці Божай з рымскай базылікі Santa Maria Maggiore.**



**А.** Бяроза;
**Б.** Белаазёрск;
**В.** Брэст.

**10 У якой мясцовасці ў жніўні збіраюцца шматлікія пілігрымы і вернікі, каб ушанаваць Маці Божую?**



**А.** Браслаў;
**Б.** Будслаў;
**В.** Бездзеж.

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

Каталіцкі ВЕСНІК №4 (133) красавік 2022 г.

# Чаму дзяўчаты ідуць у манастыр?

## Інтэрв'ю з будучай манахіняй-беларускай



**"Каталіцкі Веснік" паразмаўляў з беларускай Вікторыяй Радзюкевіч, якая праходзіць фармацыю ў сясцёр-салезіянак у Рыме. Дзяўчына падзялілася думкамі пра сваё пакліканне да манаскага жыцця, а таксама распавяла пра жыццё і вучобу ў адным з найстарэйшых гарадоў свету.**

**– Вікторыя, адкуль Вы родам?**

– Я нарадзілася і жыла ў вёсцы Малое Мажэйкава (зараз аграгарадок Мажэйкава) Лідскага раёна Гродзенскай вобласці. Таксама цікавая рэч, што непадалёк знаходзіцца мясцовасць Радзівонішкі, станцыя "Курган", дзе быў першы на беларускіх землях у эпоху Рэчы Паспалітай касцёл салезіянскага святога Яна Боска.

**– А як і дзе адбылося Ваша знаёмства з салезіянскай супольнасцю?**

– Гэта вельмі цікавае знаёмства... Яно адбывалася ўрыўкамі, невялікімі крокамі, з перапынкамі. Першае маё знаёмства адбылося ў 2015 годзе на сустрэчы ДДМ у Смаргоні, дзе я ўбачыла ўпершыню выяву св. Яна Боска, якая дакранулася да майго сэрца. Пасля ў гэтым жа годзе мы з сяброўкай вырашылі наведаць першы раз капліцу св. Яна Хрысціцеля ў Серабранцы ў Мінску, дзе я ўбачыла салезіяніна кс. Паўла Шчарбіцкага. Яго незвычайная ўнутраная радасць пакінула след у маім сэрцы.

Потым знаёмства працягнулася на сустрэчы моладзі ў Кракаве ў 2016 годзе, дзе я была з супольнасцю палатынаў. Але разам з намі быў малады чалавек-салезіянін, які распавядаў з такой гарачынёй пра гэту сям'ю і св. Яна Боска, што мне вельмі захацелася бліжэй пазнаёміцца з іх супольнасцю. Пазней хацела пазнаёміцца з кс. Паўлам, але, на жаль, ён быў у Смаргоні. Тады таксама я не мела адвагі. І больш чым год прайшоў, калі я другі раз вярнулася ў Серабранку, пасля таго, як даведалася, што сюды, на служэнне вярнуўся гэты святар. І вось тады распачалося сапраўднае знаёмства з гэтай супольнасцю, з харызмай, з моладдзю. На той момант я адчувала нешта неверагоднае ў маім жыцці. А таксама і тое, што Бог дае надзею на пошук чагосьці сапраўднага, таго, чаго мне не хапала.



**– Калі і як з'явілася жаданне пайсці ў кляштар?**

– Насамрэч ніколі не мела гэтага жадання, але адказала Богу на тое, што пачула, што ўбачыла праз малітву – знакі, штодзённасць, а таксама праз намер і жаданне сэрца сапраўды споўніць волю Айца. Самы першы крок зрабіў да мяне Бог, калі даў вялікае жаданне маліцца адной малітваю пад назвай "Адданне сябе Богу", у якой гаварылася: "... Дай мне толькі Тваю любоў і ласку, і буду я дастаткова багатая і нічога больш шукаць не буду". Не памятаю, ці была дастатковая свядомасць у гэтым, але вялікае жаданне сэрца і давер да Яго паўтаралі гэтыя словы доўгі час. Пэўныя думкі ўзнікалі таксама на сустрэчы для дзяўчат, якія адбываліся ў салезіянскім араторыі ў Серабранцы. Далей было наведванне араторыя, сустрэчы аб пакліканні, разважанні над Словам Божым, Адарацыя, на якую я нават прыходзіла на ўсю ноч, пілігрымкі і розныя спатканні, духоўнае кіраўніцтва. Ва ўсім гэтым я была адкрытая, каб пачуць, які крок неабходна зрабіць наступным.

Таксама прапанова, на якую я адказала "так", была ад сястры Ірыны Барцэвіч, што параіла мне паехаць у Грузію. Там я атрымала вопыт жыцця разам з сёстрамі, была валанцёрам і дапамагала з дзецьмі, а таксама мела сапраўдны вопыт размовы з Богам і адкрывала Яго аблічча як Айца, Каторы любіць.

**– Раскажыце пра сваю цяперашнюю фармацыю. Што асаблівага ў гэтым перыядзе?**

– Зараз я праходжу перыяд аспіранатата (PVO) – час праверкі і арыентацыі. Знаходжуся ў Рыме і жыву ў супольнасці сясцёр салезіянак. Гэта вельмі прыгожы час, каб сапраўды заклаці моцны падмурак і ісці наперад у служэнні Богу і іншым, а таксама ў выратаванні сваёй душы і моладзі. Гэта час, каб больш узрасці ў пазнанні сябе і сваёй сталасці, а таксама праверыць жаданні свайго сэрца і яго арыентацыю. Уся ж фармацыя складаецца з трох этапаў: аспірантат, пастулат і навіцыят. І ўвогуле доўжыцца чатыры гады, але бывае па-рознаму і залежыць ад розных умоў.

**– Як выглядае Вашае навучанне?**

– Каб распачаць вучобу ў салезіянскай кангрэгацыі я выказала ў пісьмовай форме сваю просьбу і матыў да галоўнай сястры нашай візітатарыі, чаму хачу ўступіць. Вучоба ў асноўным зараз адбываецца ў супольнасці, дзе ў адведзеным для гэтага памяшканні вывучаем салезіянскую харызму, катэхізацыю ў больш глыбокім напрамку, асновы псіхалогіі. Таксама ёсць сустрэчы адзін раз на месяц на тэму пазнання сябе на аснове псіхалогіі, але толькі разам з Богам (я + Бог = быць, станавіцца), сустрэчы з сястрой-дырэктаркай, каб ісці ў правільным напрамку, асістэнцыя ў араторыі і школах, сустрэчы з моладдзю. Са мной ёсць пяць аспірантак: тры з Італіі і адна з Албаніі. Я не, але астатнія наведваюць таксама ўніверсітэт па дзвюх дысцыплінах.



**– Ці ведалі Вы італьянскую мову да таго, як паехаць вучыцца?**

– Так, але зусім крыху. Магла чытаць і засвоіла самы першы ўзровень, але практыкі не было. Цяпер таксама яшчэ складана з мовай, але шукаю тое, што патрэбна для закладання падмурка камунікацыі.

**– А якія культурныя адрозненні асабліва адчуваеце, знаходзячыся ў Італіі?**

– Гэта, напэўна, спосаб гаварыць, выказвацца з жэстамі, спосабы прывітання і звяртацца на "ты" ў асноўным. Таксама заўважаю больш радасці, прастаты і лёгкасці ў штодзённасці. Канешне, вельмі адрозніваецца ежа, дзе амаль заўсёды на абед – паста (макароны) з рознымі падліўкамі, складнікамі. Таксама асацыяцыя з Італіяй – гэта піца. Ежа разнастайная, гэта залежыць ад рэгіёна, але вельмі смачная. Забылася пра галоўную рэч – гэта кава!!!

**– Як праводзіце вольны час?**

– Мы збіраемся разам, каб наведаць цікавыя месцы ў Рыме, гуляем у настольныя гульні. Я шмат чытаю, таксама адводжу час, каб пагаварыць на роднай мове.

**– Як выглядае Ваша духоўнае, рэлігійнае жыццё зараз?**

– Так, так, шукаю, каб сапраўды было духоўным!!! Гэта жарт, але...

Кожны дзень – Эўхарыстыя, Літургія гадзін раніцай і вечарам, духоўнае чытанне, ружанец і ўвесь астатні дзень, як малітва, але ў дзеяннях. Бо так выглядае салезіянская харызма.

**– Што для Вас на дадзены момант галоўнае ў жыцці?**

– Гэта ўзрастаць у любові і імкнуцца да святасці. Гэта значыць, працаваць над сабою разам з Богам у прысутнасці Святога Духа, праз Якога адчуваеш натхненне да глыбокіх і сапраўдных рэчаў. І праз усё гэта быць прыкладам і жывым Хлебам для іншых!

*Гутарыла*
***Ірына Радзевіч***



# Святая, якая дапамагае ў безнадзейных справах

**22 мая Каталіцкі Касцёл успамінае святую Рыту з Касіі, каштоўную перліну сярод святых. Яна з'яўляецца адной з самых папулярных святых на працягу некалькіх стагоддзяў. Людзі моляцца да яе ў самых розных інтэнцыях, просяць дапамогі ад хваробы і ранаў, у стратах, у вырашэнні шлюбных праблем, у немагчымых і безнадзейных сітуацыях, у складаных і адчайных выпадках.**

Будучая святая нарадзілася каля 1380 г. непадалёк ад Касіі (Умбрыя, Італія). Яе жыццё ад самага пачатку было прасякнута цудамі і дзіўнымі падзеямі. Яна была адзіным і познім дзіцём у сям'і, вымаленым бацькамі ў Бога.

### Чаму святая Рыта лічыцца святой "безнадзейных выпадкаў"?

Біёграфы святой Рыты распавядаюць, што, калі яе маці была цяжарнай, да яе ў сне з'явіўся анёл, які абвясціў, што жанчына чакае нараджэнне дачкі, і загадаў назваць дзяўчынку Рытай. Нараджэнне Рыты – правобраз нараджэння святога Яна Хрысціцеля, таксама адзінага сына пажылых бацькоў, якія ўжо страцілі надзею мець дзяцей. Магчыма, ад самага нараджэння Рыце было наканавана стаць святой "безнадзейных выпадкаў".

### Цуды з дзяцінства

Існуе таксама паданне, якое расказвае, што пасля хросту маленькай Рыты, калі яна спала ў калысцы, некалькі дзён запар белыя пчолы збіраліся ў яе на вуснах і адкладалі ў яе рот салодкі мёд. Пры гэтым не чынячы ніякай крыўды дзяўчынцы. Адзін з жыхароў вёскі, які ўбачыў як гэта адбывалася, паспрабаваў сваёй параненай рукой адагнаць пчол ад дзіцяці. У гэты момант яго параненая рука цудоўным чынам аздаравілася.

### Сямейнае жыццё незвычайнай святой

З чатырнаццаці гадоў Рыта марыла пайсці ў кляштар. Аднак будучы паслухмянаю волі бацькоў, каб зноў жа стаць прыкладам для замужніх жанчын і маці, яна выйшла замуж за жыхара іх горада Паола Манчыні, які належаў да ваяўнічага і магутнага сямейнага клану. У мужа Рыты быў жахлівы характар, яго баялася ўся ваколіца, але жонка сваёю пяшчотаю і дабрынёю змяніла сэрца мужчыны, з якім пражыла васямнаццаць гадоў. У шлюбе ў іх нарадзілася двое дзяцей-блізнят – Джакома і Паола Марыя.

Муж прычыняў Рыце шмат пакутаў тым, што ўвесь час забіваў людзей на загад клану. Часам быў жорсткі з ёй, але яна суцяшалася малітвай і адказвала яму дабром на яго жорсткасць, працягваючы быць вернай Хрысту на працягу ўсіх гадоў шлюбнага жыцця. Яна ўвесь час спрабавала спыніць варожасць, якая панавала паміж мужчынамі клану мужа, але толькі свайго сужэнца змагла ў рэшце рэшт схіліць да веры, дабра і даравання.

Мужа Рыты забілі тады, калі ён паспеў ужо паяднацца з Богам. На пахаванні сужэнца святая публічна прабачыла забойцам і абяцала за іх маліцца, за што наклікала на сябе гнеў з боку помслівай сям'і Манчыні. Сям'я мужа сілком забрала сыноў Рыты да сябе, каб падрыхтаваць хлопчыкаў да вендэты за бацьку. Але маці малілася, каб лепш яны самі загінулі, чым пралілі чужую кроў. І сапраўды, абодва юнакі неўзабаве памерлі падчас эпідэміі.

Застаўшыся адна, няшчасная маці вырашыла аддаць і сябе ў рукі Бога, падаўшы прашэнне аб уступленні ў жаночы манастыр св. Аўгусціна. Але ёй зноў было адмоўлена. Сумныя падзеі працягвалі вісець над Рытай. Прыняць "крывавую ўдаву" азначала ўцягнуць у права помсты і манастыр, і яго насельнікаў, непазбежна звязаных па нараджэнні або па сваяцтве з тым ці іншым варожым бокам. Рыта зразумела, што гэтыя дзверы не адчыняцца, пакуль не будзе дасягнутае прымірэнне паміж раднёй забойцы і забітага. І яна сама ўзяла на сябе абавязак наладжваць сувязі прабачэння, убачыўшы ў гэтым волю Бога і сваю місію. Колькі нянавісці і злосці, колькі пагарды і адмоваў давялося ёй вынесці, перш чым растаялі разлютаваныя сэрцы! Гэта была доўгая і цяжкая праца, аднак вынік аказаўся цудам. Фактычна Рыта спыніла кровапралітную вайну ў цэлым горадзе, вайну, якая цягнулася пакаленнямі.

### Жыццё ў кляштары

Святая Рыта ўступіла ў кляштар аўгусцінаў св. Марыі Магдалены ў Касіі. Тут, адасобіўшыся ад свету, яна вяла жыццё, напоўненае пакаяннем і духоўнай любоўю да Укрыжаванага Збаўцы. Штодня паглыблялася ў разважанне над Мукай Хрыстовай. Яна мела шмат містычных аб'яўленняў.

Жанчына не ўмела ні чытаць, ні пісаць, таму ёй у кляштары даручалі вельмі простыя паслугі, якія тая ахвотна выконвала. Падчас працы Рыта часта цалавала пярсцёнак – знак сваёй сувязі з Езусам Абраннікам.

### Стыгматы

Святая шмат малілася. Вымаліла сабе дар стыгматаў. На галаве манахіня адчувала рану ад аднаго з шыпоў з вянка Езуса, што нагадвала ёй пра Мукі Збаўцы. Паводле падання, у 1428 годзе аднойчы раніцай Рыта атрымала з рук Хрыста вялікі драўляны шып, які аказаўся ўбіты ёй у косць ілба. Гэта быў адбітак цярновага вянка, які быў на Езусе Хрысце ў дзень Яго ўкрыжавання. Аскепак шыпа вынялі з яе ілба і пакінулі ў якасці рэліквіі. Кожную раніцу рана адкрывалася сама па сабе, пакуль не пачаў струменіць моцны пах, які пратрымаўся цудоўным чынам да канца яе дзён.

### Як гэта адбывалася

Была Вялікая Пятніца. Рыта слухала кранальнае казанне пра мукі Хрыста. Вярнуўшыся ў манастыр, яна зараз жа ўпала на калені перад Крыжом, молячыся і разважаючы з любоўю ў сэрцы... Яна маліла Яго, абліваючыся слязьмі, і прасіла Езуса Хрыста пра адну міласць: даць ёй адчуць і выпрабаваць на сваім целе такі ж боль, які Ён адчуў ад шыпа на Сваім святым цярновым вянку... І яе просьба была выканана: у сярэдзіне ілба яна адчула не толькі боль ад вострых шыпоў, але адзін шып застаўся, зрабіўшы рану, пераўтвораную ў язву, якая засталася ў яе на ўсё жыццё.

Гэтая містычная з'ява працягвалася пятнаццаць гадоў. Рыта таксама прасіла Бога, каб рану не бачыў ніхто навокал. І была пачутая.

Апошнія гады жыцця жанчына правяла ў адзіноце, несучы на чале знак цярня Мукі Пана. Рана загаілася толькі адзін раз, калі яна вырашыла накіравацца ў Рым, каб удзельнічаць у юбілейным адпусце.

### Ружа сярод зімы

Пазней ужо невылечна хворая Рыта папрасіла знаёмую, якая захацела хоць чым-небудзь дапамагчы ёй, прынесці для яе ружу. Нягледзячы на тое, што гэта быў марозны зімовы дзень, у садзе заквітнела незвычайнай прыгажосці ружа. Ашаломленая жанчына, убачыўшы кветку і цудоўныя плады, якія з'явіліся сярод зімы, на марозе, сарвала іх і прынесла Рыце. Такім чынам Госпад выказваў відавочныя знакі Сваёй любові да ўлюбёнай нявесты. Рыта з радасцю ўзяла гэтую кветку як сімвал любові свайго Нябеснага Абранніка. З тых часоў на абразах святая Рыта намалявана з ружамі.




### Смерць

Рыта памерла 22 мая 1457 года ад сухотаў. Адразу пасля смерці святой праз яе заступніцтва пачало адбывацца шмат цудаў, якія садзейнічалі распаўсюджванню яе культу. Праз дзесяць гадоў пасля смерці некранутае распадам цела святой паклалі ў прыгожы шкляны саркафаг. Беатыфікацыя Рыты адбылася ў 1628 г., а ў 1900 г. Папа Леў XIII абвясціў яе святою. Цяпер яе цела спачывае ў санктуарыі ў Касіі, куды прыходзіць шмат пілігрымаў. У памяць пра святую ў дзень яе ўспаміну (22 мая) у Італіі асвячаюцца «ружы святой Рыты».

### Цуды пасля смерці

Праз дзвесце гадоў пасля смерці святой Рыты ў манастыры Касіі адбылося нешта незвычайнае. Белыя пчолы, якія насяляюць сцены манастыра і якія паводле падання аб нараджэнні святой называюцца "пчоламі святой Рыты", сталі вылятаць са сцен кляштара на працягу ўсяго Вялікага Тыдня (Вялікадня) кожны год і працягвалі лётаць у паветры аж да дня святой Рыты, да 22 мая. Пасля чаго яны вярталіся ў свае цясніны да наступнага Вялікадня. Цясніны ў сценах, якія пчолы традыцыйна насяляюць, можна добра ўбачыць і сёння, калі прыехаць у кляштар.

## Малітва да святой Рыты

**Святая Рыта, апякунка ў цяжкіх справах, заступніца ў безнадзейных сітуацыях, цудоўная зорка святога Касцёла, люстра цярплівасці, пераможца злога духа, лекарка хворых, суцяшэнне засмучаных, узор сапраўднай святасці, любімая абранніца Хрыста, пазначаная цернем з цярнёвай кароны Укрыжаванага.**

**Усім сэрцам ушаноўваю цябе і прашу, маліся за мяне, каб ва ўсіх жыццёвых сітуацыях я навучыўся прымаць Божую волю. О святая Рыта, прыйдзі мне на дапамогу і ўчыні, каб я спазнаў вынік тваёй апекі, каб былі пачутыя мае малітвы каля трона Божага. Выпрасі для мяне ласку ўмацавання ў веры, надзеі і любові, шчырага праслаўлення Марыі, а таксама ласку (назваць).**

**Учыні, каб, перамогшы ўсялякія перашкоды і спакусы, я змог калісьці дасягнуць неба і там дзякаваць табе і вечна радавацца разам з Айцом, Сынам і Духам Святым. Амэн.**

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Арфеева***



## Пакой для малітвы

**ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.**

**Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны чацвер з 17.00.**
**Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:**
**+ 375 29 78 51 298**

## *Віншуем!*



*23 красавіка наш пробашч* ***кс. Юрый Бараўнёў*** *святкуе Дзень нараджэння і імяніны. З гэтай нагоды мы радыя яго павіншаваць і пажадаць моцнага здароўя, душэўнага супакою, шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці Божай!*

*Ваш Дзень нараджэння, асветлены сонцам,*
*Вітае парафія нашая ўся.*
*Мы зычыць Вам радыя сягоння бясконца*
*Натхнення, здароўя, цяпла і святла!*

*Жыццё ахвяруеце Богу і людзям,*
*А сёння за Вас маліцца мы будзем.*
*Анёл Ваш ахоўнік хай Вас зберагае*
*І моцаю духа заўжды надзяляе!*

*Каб веру касцёла свайго мацавалі,*
*Ад грэху, правінаў народ ратавалі!*

***Парафіяне касцёлаў у Крулеўшчыне, Барсуках, Порплішчы***

## *Хвала Хрысту!*

*23 красавіка наш* ***ксёндз Юрый Бараўнёў*** *адзначае Дзень нараджэння.*

*Шаноўны ойча! Шчыра віншуем Вас з гэтай нагоды! Жадаем ад усяго сэрца трывалага здароўя, мудрасці, супакою ў душы! Хай Маці Божая ахінае Вас сваёй ласкай, а Дух Святы няхай дапамагае ў служэнні Богу, усім людзям, а таксама нашай парафіі і ўсяму Святому Касцёлу!*

***Вернікі касцёла Найсвяцейшага Сэрца Езуса (агр. Крулеўшчына)***

## *Хвала Хрысту!*



*Паважаны* ***ксёндз Віталь Бяленік!*** *28 красавіка Вы адзначаеце Дзень Анёла. Жадаем Вам шмат радасці, здароўя, нястомнага запалу духа ў святарскай паслузе! Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя атуляе матчынай любоўю, а калі выпадаюць складаныя жыццёвыя хвіліны, Анёл-апякун хай нястомна клапоціцца пра Вас!*

*Няхай штодзённыя жыццёвыя намаганні акрыляюць Вас, а няспыннае святарскае служэнне прыносіць трывалы плён і задавальненне!*

***Вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса з Падсвілля***

## *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*11 красавіка адзначыў Дзень нараджэння наш былы пробашч –* ***ксёндз Валеры Орсік,*** *які сваёй добрасумленнай святарскай працай заслужыў павагу і любоў усіх вернікаў нашай парафіі.*

*Шаноўны ксёндз Валеры! Прыміце шчырыя словы падзякі за Вашае добрае сэрца, за зычлівасць, за навучанне Божаму слову, за клопат пра парафію!*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам моцнага здароўя, здзяйснення мараў і надзеяў, сілы і энергіі, поспехаў у святарскім служэнні, святла і цярплівасці, каб весці людзей па дарозе збаўлення!*

*Дзякуем Вашай маме Анастасіі за выхаванне сына-святара! Няхай Пан Бог адорыць яе моцным здароўем, патрэбнымі ласкамі, блаславеннем і падтрымкай на працягу ўсяго жыцця!*

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла Святога Айца Піа ў Лёзне***

## *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Дасылаем словы шчырага віншавання нашаму паважанаму* ***ксяндзу-пробашчу Тадэвушу Кавальскаму*** *са святам Уваскрасення Пана Езуса Хрыста і з Днём Святарства!*

*Жадаем Вам, дарагі наш ойча, і Вашым родным духоўных і фізічных сіл, моцнага здароўя, даўгалецця, шчодрай Божай дапамогі, апекі і абароны Маці Божай і ўсіх святых, творчага натхнення ў працы на нязмерным ніве святарскага служэння! А таксама жадаем, каб заўжды побач з Вамі былі неабыякавыя, добразычлівыя людзі. Няхай Міласэрны Пан Езус Хрыстус Уваскрослы благаслаўляе Вас кожны дзень і пасылае Вам з неба ласкі Сваёй прамень!*

*Сардэчна дзякуем за Вашае служэнне, за пастаянную падтрымку людзей у складаных жыццёвых абставінах, за шчырыя малітвы і абвяшчэнне Божага слова! Няхай Дух Святы і надалей накіроўвае і натхняе Вас на добрыя справы на карысць нашай парафіі і ўсяго Касцёла!*

*Віншуем таксама ўсіх святароў, братоў і сясцёр з касцёла Святой Тройцы ў Докшыцах! Жадаем усім веснавога святочнага настрою, здароўя, падтрымкі Усемагутнага Пана Бога, Духа Святога, Ласкавай Маці Божай і ўсіх святых!*

***З любоўю, малітвамі і павагай, вернікі касцёла Хрыста Валадара ў Бягомлі***

## *Хвала Хрысту!*

*З нагоды ўстанаўлення Дня Святарства, з Вялікаднем і імянінамі (23 красавіка) дасылаем найлепшыя пажаданні нашаму паважанаму* ***ксяндзу Юрыю Жаўнярovічу!***

*Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы, шаноўны ксёндз Юрый, напаўняе яго дыханнем Божай любові і прамянямі Святога Духа! Жадаем моцнага здароўя, аптымізму, бадзёрасці духу, мудрых рашэнняў і разумення Божай волі ў Вашым служэнні!*

*Дзякуем Вам за Вашу нялёгкую працу! Дзякуем Пану Богу, што Вы ў нас ёсць! Нізкі паклон ад усіх нас!*

***З павагай і любоўю, вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа (аг. Ахрэмаўцы)***

## *Хвала Хрысту!*

*Паважанаму* ***ксяндзу Юрыю Жаўняровічу*** *з нагоды Дня святарства і Свята Уваскрасення Пана, а таксама ў сувязі з Днём імянін дасылаем букет найлепшых пажаданняў!*

*Сардэчна жадаем, каб Бог бласлаівіў Вас на кожны дзень служэння, адарыў сілай, цярплівасцю, вытрымкай і адвагай. Няхай ніколі не згаснуць Ваша руплівасць на ніве Пана, палымянасць у малітве, цяпльня і любоў, якімі Вы дзеліцеся з намі!*

*Няхай Маці Божая заўсёды Вас аберагае ад няшчасцяў і трывог і трымае ў сваёй апецы! Жадаем многа радасных хвілін і пазітыўнага настрою! Дзякуем за добрыя словы, за ўважлівасць і чуласць!*

***Вернікі парафіі Маці Божай Анёльскай (в. Замошша)***

## *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Свайго тату Віктара Рэйшэля віншую з юбілеем, з 80-цігоддзем! Ад усяго сэрца жадаю здароўя, Божых ласкаў і Божага благаслаўлення! Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды атуляе цябе сваёй любоўю і сцеражэ ад усіх няўзгодаў!*

*Дзякую за жыццё! Люблю і віншую, тата!*

***Сын-святар Генадзь Рэйшэль (Шаркаўшчына, Віцебская дыяцэзія)***

## *Хвала Хрысту!*

*Паважаны* ***ксёндз Сяргей,*** *шчыра і сардэчна віншуем Вас з Днём народзін!*

*Жадаем Вам шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень, моцнага здароўя, душэўнага супакою, шчырай радасці, цярплівасці і нязгаснага запалу ў душпастырскай паслузе! Няхай неба над галавой заўсёды будзе ясным, а сэрца напаўняе цеплыня і ўсё самае лепшае! Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя заступаецца за Вас перад Божым тронам, ахінае сваёй апекай і супакоем, а Дух Святы будзе шчодрым на свае дары! Хай зерне, засеянае Вамі на Божай ніве, прыносіць добры плён, а Езус валадарыць у Вашым сэрцы!*

*Шчыра дзякуем за ахвярную працу ў нашым касцёле.*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Друі (Браслаўскі р-н)***

## *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Шаноўны* ***кс. Славамір Самковіч!*** *Ад усяго Апостальства дапамогі душам чысцовым віншуем Вас са святам Вялікадня! Жадаем Божага благаслаўлення, дароў Духа Святога, апекі Маці Божай. Чакаем Вас у нашых касцёлах.*

***Удзельнікі АДДЧ (Мёры, Ідолта, Павяцце)***

## *Хрыстос уваскрос!*



*Паважаны* ***кс. Вячаслаў Адамовіч!*** *Шчыра віншуем Вас са святам Уваскрасення Хрыста! Жадаем усіх Божых ласкаў, дароў Духа Святога, здароўя, даўгалецця і цёплых усмешак.*

*Вялікі дзякуй Вам за тое, што робіце для нас. Заўсёды чакаем у нашых капліцах.*

***Вернікі з Забалоцця і Дзедзіна***

## *Хвала Хрысту!*



*Дзякуем* ***айцу Паўлу Лемеху,*** *што ён знайшоў час і прыехаў да нас!*

*Дзякуем за змястоўнасць і прыгажосць павучальных рэкалекцый!*

*Вялікую падзяку дасылаем Вам, айцец Павел! Увесь Обаль кланяецца Вам нізка! Сэрцы нашы адкрытыя прад Вамі, сустрэчам заўсёды мы рады, вітаем добрымі словамі. Жадаем Вам Божага благаслаўлення!*

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне капліцы святога Вінцэнта дэ Поля (м. Обаль, Шумілінскі раён).***

## *Хвала Хрысту!*

*Сардэчна віншуем з Днём Святарства нашых шаноўных святароў* ***пробашча Мікалая Цixановіча і вікарыя Алега Зямчонка, а таксама ўсіх ксяндзоў,*** *якія раней неслі служэнне ў нашай парафіі!*

*Няхай Усемагутны Бог благаславіць Ваш нялёгкі святарскі шлях, каб годна Айцу служылі, неслі бліжнім супакой, былі прыкладам нязломнай веры, каб дапамагалі душам, давераным Вашай апецы, годна прайсці свой жыццёвы шлях! Будзьце Святлом Хрыста і соллю зямлі! Няхай Вашае служэнне будзе плённым і шчаслівым пад апекай Марыі – Маці святароў!*

***З павагай і малітвай, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Паважаныя святары, браты і сёстры манаскіх супольнасцяў, дарагія дыяцэзіяне!

*Выказваю шчырую падзяку ўсім вам за малітоўную памяць і віншаванні з нагоды майго 50-цігадовага юбілею! Няхай добры Бог адорыць вас шчодрымі ласкамі і сцеражэ ў гэты няпросты час ад усіх бедаў і няшчасцяў! Малюся за вас і кожнага з вас трымаю ў сваім сэрцы!*

*Асабліва хачу падзякаваць душпастырам і парафіянам з Камаяў, Глыбокага і Браслава. Дaручаю ўсіх вас магутнай апецы Беззаганнай Дзевы Марыі, Валадаркі азёраў і ўсяго нашага роднага Краю! Божага вам святла, радасці і супакою!*

*Штодзённую працу і на надыходныя Велікодныя святы няхай благаславіць вас Бог Усемагутны:*

***+Айцец, і +Сын, і +Дух Святы!***

***З удзячнасцю і павагай,***
***+Алег Буткевіч – Біскуп Віцебскі***

## Хвала Хрысту!

*Паважаны ксёндз Віктар Місевіч – галоўны рэдактар газеты «Каталіцкі Веснік», а таксама супрацоўнікі газеты, паважаныя святары, якія будуць адзначаць свае дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскіх пасвячэнняў! Мы хочам ад усёй душы павіншаваць Вас са святам Уваскрасення Хрыста!*

*Няхай міласэрны Пан Бог шчодра адорыць усімі неабходнымі ласкамі, якія патрэбны ў Вашым святарскім служэнні, моцным здароўем, трывыласцю і аптымізмам! Няхай Уваскрослы Хрыстус заўсёды апякуецца Вашым жыццём, напаўняе яго дабрынёй, радасцю і супакоем! Няхай Вашы бацькі і родныя будуць пад апекай Маці Божай і Езуса Міласэрнага!*

*Дасылаем усім святарам нізкі паклон і словы ўдзячнасці. Будзем памятаць іх у сваіх малітвах.*

***Ад усіх вернікаў Мядзельскай парафіі***
***Маці Божай Шкаплернай, Ядвіга Жолнер***

## Хвала Хрысту!

*Паважаная рэдакцыя газеты «Каталіцкі Веснік»! Віншуем вас з надыходам Вялікадня! Ваша газета вельмі цікавая і патрэбная. Будзьце і надалей плённымі на Божай ніве. Няхай Збаўца адорыць вас усімі патрэбнымі ласкамі, моцным здароўем!*

*Таксама хочам павіншаваць нашага **ксяндза Мікалая Ліпскага** з днём пасвячэння ў святары (8 красавіка) і Вялікаднем. Дзякуем Вам, дарагі ксёндз Мікалай, за малітвы, за абвяшчэнне Божага слова! Жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, каб весці Божы люд да Пана і абвяшчаць Добрую навіну!*

***З павагай, вернікі касцёла***
***св. Марыі Магдалены (г. Новалукомль)***

## Хвала Хрысту!

*Хачу выказаць сваю ўдзячнасць Пану Езусу і Найсвяцейшай Панне Марыі за няспынную апеку! Бог у маім жыцці зрабіў шмат цудаў і адарыў сваімі ласкамі!*

*Няхай будзе праслаўлена Яго імя на вякі! Няхай валадарыць Яго святая воля на зямлі!*

***Марыя Рачыцкая (Шаркаўшчына)***

# «В костёл нас привёз православный священник». Украинские беженцы рассказали, как приехали в Беларусь



Елена рассказала о том, что в день начала войны, 24 февраля, у ее детей должны были пройти долгожданные соревнования по плаванию. Дети готовились выступить и получить призы. «А младший сын ходил на вокал в музыкальную школу, готовился к концерту на 8-е марта, который тоже не состоялся… Что уж говорить о школе: мои дети, как и многие другие, не учатся уже с 24 февраля, и когда вернутся на занятия, неизвестно».

Дорога из соседних городов оказалась заблокирована, все сёла вдоль нее – оккупированы. Подвоз товаров невозможен до сих пор. Люди доедали то, что оставалось. «Потом перебили электроэнергию, – говорит Елена, – холодильники разморозились, и все те запасы, которые еще хранились у людей, нужно было срочно доедать, после чего запасов практически не осталось. Все это сопровождалось постоянными звуками сирены, летающими вражескими самолетами и взрывами снарядов где-то неподалеку. Часто просыпались от звуков падающих бомб. Мы вообще перестали нормально спать: сон был как в бреду. По два раза сирена за ночь, пока побегаешь в убежище, уже и спать некогда…»

А 16-летняя дочь Татьяны готовилась к выпускному вечеру в школе: репетировала вальс, ей уже заказали платье, она очень ждала выпускной и мечтала станцевать. Но утром 24 февраля семья проснулась от взрывов. «Я раньше никогда не слышала взрывов и подумала с надеждой: может, это просто гроза? Ведь мы не воспринимали всерьез разговоры о войне, абсолютно в нее не верили, – говорит Татьяна. – В первую воздушную тревогу было очень страшно. Летели самолёты со стороны Беларуси, но не на нас. Они бросали бомбы дальше и возвращались обратно. Взрывы мы слышали постоянно, но бояться уже перестали».

Основные продукты в магазинах пропали уже на второй день войны, а через две недели магазины закрылись вообще. На пять дней пропадало электричество. Варили еду на мангалах на улице. Люди выходили в свои дворы, разводили костры, объединялись, готовили сразу на несколько семей.

Из отрезанного от сообщения города был только один путь эвакуации – в Беларусь. Семьи решились на это, часть пути до границы пришлось пройти пешком. На белорусской стороне их встретили знакомые, которые приехали раньше, и местный православный священник. «Он привез нас в католический храм, прихожане которого взяли к себе на ночлег. Нас приютили верующие люди, открыли холодильник, сказали брать, что захотим. Я расплакалась, когда мои дети увидели нормальную еду: мама, здесь сыр, пельмени, хлеб! Ведь у нас было очень скудное питание».

Прихожане помогли семьям деньгами и продуктами, купили билеты. Женщины решили ехать дальше, в страны Евросоюза, поскольку оставаться в этом государстве им было тяжело. Они уже благополучно добрались и передали большую благодарность всем белорусам, которые проявили доброту, заботу и гостеприимство.

*Katolik.life*

## Шчыра дзякуем!

*Усёй душой дзякуем Пану Богу за нашага былога пробашча **кс. Андрэя Бульчака**, душпастыра парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах. Яго адданасць, сардэчнасць і любоў да ўсіх парафіян не пакінула абыякавым ніводнага верніка. Ён ахінаў Божай любоўю кожнае дзіця. Моладзь імкнулася да яго як да мудрага і добрага настаўніка, у якога для кожнага знаходзіўся кавалачак сардэчнай цеплыні. Дзякуем за яго святарскае пакліканне, за дабрыню ў вачах, за тое, што нёс нам Божае слова.*

*Хвала Пану за тое, што падарыў нам восем гадоў жыцця з цудоўным святаром, які ёсць соль зямлі і святло свету!*

## Рубрыка “Разважаем над Божым словам”

**Запрашаем чытачоў “Каталіцкага Весніка” пачытаць рубрыку “Разважаем над Божым словам”.**

Разважанні над зместам евангельскіх чытанняў кожную нядзелю з’яўляюцца на сайце Catholicnews.by. Аўтар разважанняў – ксёндз-канонік Віктар Місевіч, галоўны рэдактар газеты “Каталіцкі Веснік”.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***“Каталіцкі Веснік”***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*“Каталіцкага Весніка”*



## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Што Касцёл кажа пра перадвызначэнне чалавека?

**“Хвала Хрысту! Часта можна пачуць: у мяне, у яго, у іх лёс такі. Адкажыце, калі ласка, што Касцёл і Святое Пісанне кажуць пра перадвызначэнне чалавека, пра нейкую наканаванасць у яго жыцці? Ці можна змяніць свой лёс? І ці наогул ёсць штосьці такое, як лёс, у хрысціянскім разуменні?”** *Ірына*

— Пры адказе на гэтае пытанне ўжо напачатку варта выразна адзначыць, што памылковым меркаваннем з’яўляецца тое, быццам некаторым людзям наканавана няшчасце, у тым ліку канчатковае няшчасце, гэта значыць, вечны праклён. Пытанне нават не ў тым, як прымірыць гэта з Божай міласэрнасцю. Вядома, некаторыя фрагменты Бібліі, на першы погляд, могуць накіраваць на такога кшталту думкі. Як, напрыклад, верш з Апакаліпсіса: “Калі некаму наканавана няволя, няхай ідзе ў няволю. Калі некаму наканавана загінуць ад мяча, той павінен быць забіты мячом. У гэтым цярплівасць і вера святых (Ап 13,10). Тое ж піша і святы Пётр, што можна парафразаваць як “тым, хто не прыняў Евангелля, наканавана загінуць” (пар. 1 П 2,8). Каб даць адпаведную інтэрпрэтацыю дадзеных тэкстаў і іншых складаных вершаў Святога Пісання, варта ведаць адзін з агульных прынцыпаў каталіцкай экзэгезы, а менавіта ўкаранёнасць у Традыцыю (слова "Традыцыя" пішам з вялікай літары, бо гэта ўлада аўтэнтычна і верагодна тлумачыць боганатхнёныя тэксты і навучаць вернікаў на іх падставе) Касцёла.

> **Каталіцкі Касцёл адназначна адхіляе як ерась меркаванне, што Бог перадвызначыў каму-небудзь быць вечна асуджаным.**

Ужо ў 529 годзе Аранскі (Orange) сінод сказаў на гэты конт, што мы (чытай “айцы сабору”) не толькі не верым, што некаторыя з Божай волі прызначаныя на зло, але, калі ёсць тыя, хто хацеў бы верыць у такое няшчасце, мы цвёрда выключаем іх з супольнасці вернікаў (пар. Breviarim fidei VII 38).

Прамое адмаўленне таго, што Бог перадвызначыў каго-небудзь да асуджэння, не раз паўтарала найвышэйшая ўлада ў Касцёле. Так, Папа Адрыян І (772-795), пазней Сінод у Валанс-сюр-Роне (Valence-sur-Rhone) у 855 г., а найбольш выразна ў 1547 г. Трыдэнцкі сабор у Дэкрэце аб апраўданні, канон 17 (пар. Breviarim fidei VII 93).

Катэхізіс Каталіцкага Касцёла св. Яна Паўла ІІ з 1992 г. апісвае веру Касцёла на гэты конт так: “Бог нікога не прызначае ў пекла; такое прызначэнне чалавек атрымлівае праз добраахвотны адыход ад Бога (смяротны грэх) і пры гэтым застаецца ў граху да канца жыцця. У эўхарыстычнай літургіі і ў штодзённых малітвах сваіх вернікаў Касцёл просіць аб міласэрнасці Бога, Які не хоча, “каб нехта загінуў, але хоча, каб усе прыйшлі да пакаяння” (2 П 3,9), (ККК 1037).

Цяпер вернемся да тэкстаў Бібліі, якія мы прывялі напачатку. Ні ў адным з іх няма ніводнага слова, вытворнага ад дзеяслова “перадвызначаць”. У Новым Запавеце гэты дзеяслоў – па-грэцку proorizein – сустракаецца толькі шэсць разоў (Рым 8,29-30; 1 Кар 2,7; Эф 1,5.11; Дз 4,28).

Верш з Кнігі Апакаліпсіса 13,10, здаецца, утрымлівае заклік да хрысціянаў з пакорай прыняць пакуты, якія спадаюць на іх з Божай рукі. Так што гэта было б прадвеснікам ганенняў, якія пагражаюць вернікам: іх кінуць у вязніцы, іх заб’юць. Гэта менавіта тое, што ўжо сказаў Хрыстос у сваёй эсхаталагічнай прамове. Ён не абнадзейваў хрысціян адносна іх зямной будучыні ў ружовых колерах. Бо яны таксама, як і іх Збаўца, пакліканыя ўдзельнічаць ва ўсёй паўнаце пасхальнай таямніцы. А гэта прадвесце жорсткага праследу праз Звера і прадказанне адносна працягласці такога праследу. Гэта не заклік да ўзброенага паўстання супраць улады Звера. Такая інтэрпрэтацыя пацвярджаецца апошнім радком дадзенага верша: “У гэтым цярплівасць і вера святых”. Першае пасланне св. Апостала Пятра 2,8 (“Яны спатыкаюцца аб яго, бо не пакараюцца слову, дзеля гэтага яны і пакінутыя”) можна разумець як “яны і пакінутыя ў адпаведнасці з іх стаўленнем”, “у адпаведнасці з іх жыццёвай пазіцыяй”. Магчыма, гэты тэкст св. Пятра папярэджвае, што ранейшыя дзеянні чалавека істотна ўплываюць, а нават кіруюць яго паводзінамі сёння. Пан Езус аднойчы сказаў пра гэта: “Верны ў малым і ў вялікім верны, а несправядлівы ў малым несправядлівы і ў вялікім” (Лк 16,10).

Святое Пісанне гаворыць толькі пра лёс чалавека ў перспектыве збаўлення: “Бласлаўлёны Бог і Айцец Пана нашага Езуса Хрыста, Які блаславіў нас у Хрысце ўсялякім духоўным бласлаўленнем на нябёсах і выбраў нас у Ім перад стварэннем свету, каб мы былі святымі і беззаганнымі перад Ім у любові. Ён перадвызначыў нас для ўсынаўлення праз Езуса Хрыста, паводле ўпадабання сваёй волі, дзеля хвалы сваёй праслаўленай ласкі, якою Ён адарыў нас ва Умілаваным (Эф 1,3-6; пар. Рым 8,28-31).

Таму праўда пра лёс – гэта радасная праўда, што нас палюбіў Бог яшчэ да нашага існавання, а нават больш: яшчэ да заснавання свету. Мы прыйшлі ў гэты свет пры папярэдняй любові Бога да нас, любові, якая мае на мэце даць нам жыццё вечнае. Божая любоў да нас настолькі непахісная, што, нават калі мы грэбуем ёю і з пагардай ставімся да Бога, калі мы ўпалі ў грэх і сталі непрыдатнымі да жыцця вечнага, Бог вырашыў змагацца за нас і за нашае вечнае шчасце – і Ён дае нам свайго ўласнага Сына, Які стаў нашым вызваліцелем, лекарам і праведнікам да жыцця вечнага.

У Святым Пісанні мы знаходзім і іншыя пацвярджэнні, якія адносяцца да волі Пана Бога адносна нашых вечных лёсаў. Прыкладам можа служыць пачатак 2-га раздзела Першага паслання св. Апостала Паўла да Цімафея. У ім ясна сказана, што Бог “хоча, каб усе людзі былі збаўленыя і дайшлі да пазнання праўды” (1 Цім 2,4). Так што гэта не Божая воля, каб збавіць адных і асудзіць іншых. Аднак некаторыя секты і пратэстанцкія супольнасці, маніпулюючы тэкстам Біблії, кажуць пра перадвызначэнне ўсяго звыш.



**Карціна Сальвадора Далі “Хрыстос Святога Яна Крыжа”**

Слова “перадвызначэнне” паходзіць ад лацінскага назоўніка praedestinatio, што азначае лёс. Не ўваходзячы занадта ў тэалагічныя і гістарычныя складанасці, варта абагулена прадставіць навучанне Касцёла, а менавіта думку пра тое, што Бог прызначыў некаторую частку чалавецтва для збаўлення і вырашыў асудзіць астатніх, і што гэтае перадвызначэнне не залежыць ад нас, з'яўляецца чыстай ерассю.

> **Стваральнік чалавека прагне, каб кожны з нас быў збаўлены.**

“Любоў Бога да нас адкрылася ў тым, што Бог паслаў у свет Сына свайго Адзінароднага, каб мы жылі праз Яго” (1 Ян 4,9).

Тым не менш, Бог не можа нічога зрабіць супраць нас саміх. Мы істоты, надзеленыя свабодай волі. Такім чынам, мы можам сказаць “не” Богу. Аднак, калі мы зробім гэта свядома і добраахвотна, мы самі апынемся ў ліку асуджаных. Бог ратуе і жадае збаўлення для ўсіх, але чалавек можа выбраць асуджэнне – ён вольная істота.

Кожнае стварэнне, нават неразумнае, мае ў пэўным сэнсе свой лёс, таму што Бог “бачыў” лёс кожнага адвечна. У тэалагічным і хрысціянскім сэнсе, аднак, лёс адносіцца толькі да звышнатуральных дароў, дадзеных разумным істотам, і, у прыватнасці, чалавеку, гэта значыць “перадвызначэнне” належыць да нябеснай ласкі і славы. Лёс, такім чынам, – частка Божага Провіду. Божы Провід увогуле ставіць перад усімі істотамі свае мэты і своечасова дае сродкі для іх дасягнення. Такім чынам, перадвызначэнне ўключае ў сябе акт Божага пазнання, бачання і ў той жа час акт Яго волі, гэта значыць, прысуд аб надзяленні дарамі нябеснай ласкі і славы людзей, якія свабоднай воляй запрагнуць гэтага.

А запрагнуць не ўсе. Езус у Евангеллі паводле св. Мацвея кажа наступнае: “Праслаўляю Цябе, Ойча, Пане неба і зямлі, што Ты закрыў гэта ад мудрых і разумных і адкрыў гэта дзецям” (Мц 11,25). У Бога ёсць відавочныя прычыны для выбару тых, а не іншых. Ганарлівыя, эгацэнтрычныя фарысеі і кніжнікі пагарджалі Божай задумай адносна сябе (пар. Лк 7,30).

Бог з’яўляецца суверэнным уладаром сусвету. Аднак адносіны любові з чалавекам прымушаюць Яго стрымліваць свае бязмежныя магчымасці, таму што Ён хоча свабодных адносін, заснаваных на любові і даверы стварэння да Стваральніка (пар. Іс 24,14-15; Мц 23,37). Адносіны з Богам могуць быць толькі двухбаковымі і пры тым дынамічнымі. Бог чакае ад нас паслухмянасці, і няма ніякіх прыкмет таго, што гэта проста пусты вербалізм. Так, прарок Эзэхіэль у 3,18-20 і прарок Ерамія у 18,7-11 паказваюць, што Бог чакае нашай належнай рэакцыі на Яго папярэджанні. Бог не пазачасавы, але Ён напаўняе ўвесь час, таму патрабуе дынамікі развіцця адносін з сабой.

Той факт, што Бог з’яўляецца суверэнным, азначае, што Ён можа ўмешвацца ў працу стварэння, і неаднойчы робіць гэта праз цуды і надпрыродныя знакі. Хоць гісторыя свету знаходзіцца пад кантролем Бога, Які робіць усё паводле сваёй волі, аднак гэта не азначае, што, напрыклад, Халакост быў Божай воляй, учынены Ягоным адвечным дазволам. Верагодна, Божая воля заключалася ў тым, каб людзі бачылі наступствы злоўжывання сваёй свабодай. Бог занадта вялікі, каб мы вінавацілі Яго ў памылковай канцэпцыі збаўлення толькі некаторых, а не ўсіх. Гэтую канцэпцыю, здаецца, асуджае Езус, кажучы пра любоў Бога да ўсіх (а не толькі выбраных) як узор для нас (пар. Мц 5,43-48). Тое, што Бог ёсць любоў, азначае, што перадвызначаная Божая любоў да свету – гэта першае і апошняе слова Бога.

*Літаратура*

*A. G. Palladino, “Predestination (in Catholic Theology)”, New Catholic Encyclopedia (ed. T. Carson, J. Cerrito), V. 11, Washington, DC 2003, p. 647-653.*

*Breviarium fidei. Wybór doktrynalnych wypowiedzi Kościoła, red. ks. I. Bokwa, Poznań 2007.*

*Вопрос 23. О предопределении, Сумма теологии (Тома I-XIII) – Фома Аквинский (azbyka.ru)*

***Кс. Валерый Марціноўскі,***
*доктар тэалогіі,*
*г. Віцебск*




# ПАЗНАВАЙКА

Хрыстос Уваскрос! Аллелюя!
Святкуй Вялікдзень разам
з Пазнавайкай!

Калі разгадаеш крыжаванку ў сярэдзіне атрымаеш назву хрысціянскага свята.

1. Асвячаем у Пальмовую Нядзелю.
2. Дзень тыдня, у які Езус Уваскрос.
3. Радасны вокліч на Вялікдзень.
4. Аднатонна пафарбаваныя яйкі называюцца…
5. Па традыцыі іх асвячаюць на Вялікдзень.
6. Жанчына, якой першай пасля Уваскрасення з'явіўся Езус: Марыя…
7. Вялікодная Імша на світанні.
8. Месца, дзе спаткаўся Езус са сваімі вучнямі пасля Уваскрасення.
9. Хто адсунуў камень ад магілы Езуса?
10. Сваім Уваскрасеннем Езус перамог…




Жанчыны спяшаліся да пустой магілы Уваскрослага Хрыста. Дапамажы ім хутчэй дабегчы да магілы Езуса, і ўбачыць, што Ён уваскрос!

Калі пойдзеш правільным шляхам, зможаш па парадку сабраць літары і даведацца, што з габрэйскай мовы азначае слова "Пасха".




У хрысціян існуе традыцыя фарбаваць яйкі на Вялікдзень. Знайдзі 7 адрозненняў на малюнках.



## Віншаванне ад Пазнавайкі

Дарагія сябры! Віншуем вас з радасным святам Уваскрасення Хрыста! Няхай радаснае «Аллелюя!»» загучыць у вашых сэрцах і няхай адорыць кожнага чалавека новым жыццём у Хрысце! Жадаем здароўя і благаслаўлення. Мір, дабро і супакой няхай пануе ў вашых дамах!
Смачнага яйка!

*Мастачка: Вольга Будкіна; ідэя: Вікторыя Арфеева*

# Шлях да шчасця ў выкарыстанні таленту



**“Ісціна ж такая: у кожнага з нас ёсць свой дар – талент, навык, рамяство, – які дорыць нам асалоду і натхняе нас. Шлях да шчасця крыецца ў выкарыстанні гэтага дару”, – пісаў папулярны хрысціянскі прапаведнік Нік Вуйчыч у сваёй першай кнізе “Жыццё без межаў”.**

Сястра Тацццяна Касабуцкая з кангрэгацыі сясцёр-кармелітак Дзіцяткі Езуса – яркі прыклад у пацвярджэнне гэтых слоў. Манахіня ўжо амаль 28 гадоў знаходзіцца ў кляштары, лічыць сябе шчаслівай і актыўна выкарыстоўвае свой талент – шыццё.

Сястра Тацццяна нарадзілася ў Лідзе. З дзяцінства яна любіла шыць лялькам усялякія нарады, заўсёды перашывала рэчы бацькоў, прыдумляла нешта новае і арыгінальнае. З задавальненнем шыла і ў школьныя гады.

У роднай парафіі дзяўчынкі не служылі сёстры-кармэліткі. Яна пазнаёмілася з імі пазней. Аднак ёй моцна спадабаўся кармелітанскі габіт (манаскае адзенне) святой Тэрэзы. “Можа, і спадабаўся мне габіт таму, што я глядзела на яго вокам закройшчыка», – гаворыць з усмешкай сястра.

Манахіня распавядае: “Ужо ў кляштары мяне навучылі шыць манаскае адзенне. І ўвогуле розныя рэчы, звязаныя з касцёлам, я навучылася шыць, знаходзячыся менавіта тут. Усё, у чым я хаджу, у што апранутая, таксама шыю сама”.

Зараз шыццём сястра Тацццяна займаецца не так шмат. Больш часу яна праводзіць у брэсцкім каталіцкім дзіцячым садку, бо з’яўляецца яго дырэктарам.

Сястра дзеліцца: “Калісьці адзін святар папрасіў пашыць для яго арнаты. Потым яшчэ былі замовы. Таму на дадзены момант мне хочацца шыць больш таксама і для розных іншых парафій”.

Своеасаблівым натхненнем манахіні з’яўляецца таксая “спартыўная” цікавасць і жаданне пабачыць, наколькі атрымаецца пашыць тую ці іншую рэч, напрыклад, габіт іншага ордэна.

Адказваючы на пытанне пра цяжкасці, с. Тацццяна гаворыць: “Для таго, каб нешта пашыць, неабходна быць цярплівай, старанннай, а таксама неабходна мець фантазію. Якраз фантазія ў мяне добрая, а вось са старанннасцю складана. Таму гэта пэўнага кшталту высілкі”...

*Гутарыла* ***Ірына Радзевіч***



# У Віцебскай дыяцэзіі адмяняецца дыспенса ад абавязку ўдзелу ў св. Імшы ў нядзелю і ва ўрачыстасці

**У сувязі з паляпшэннем сітуацыі ў Беларусі з эпідэміяй каранавірусу, біскуп Алег Буткевіч адмяніў дыспенсу ад абавязку ўдзелу ў святой Імшы ў нядзелю і ў абавязковыя ўрачыстасці, пачынаючы з Пальмовай нядзелі 2022 г. Дыспенса дзейнічала ў Віцебскай дыяцэзіі з 17 кастрычніка 2020 года.**

Такім чынам, усе вернікі Віцебскай дыяцэзіі абавязаныя асабіста, а не анлайн, браць удзел у святой Імшы ў нядзелі і ў абавязковыя ўрачыстасці.

Да канчатковага заканчэння пандэміі застаюцца ў сіле іншыя абмежаванні і рэкамендацыі, выдадзеныя кампетэнтнай уладай, якія датычацца захавання санітарных нормаў пры правядзенні набажэнстваў.

Біскуп Віцебскі на тэрыторыі Віцебскай дыяцэзіі дазволіў налівацьсвятую ваду ў посуды пры ўваходзе ў касцёл і іншых месцах, дзе яна налівалася для ўжывання вернікамі.




# Каляндар на май

**2** мая – успамін св. Атаназія, біскупа і доктара Касцёла.

**3** мая – свята св. Філіпа і Якуба, апосталаў.

**10** мая – успамін св. Яна Авільскага, святара і доктара Касцёла.

**12** мая – успамін св. Нэрэя і Ахіла, мучанікаў.

**13** мая – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Фацімы.

**14** мая – свята св. Мацея, апостала.

**16** мая – успамін св. Андрэя Баболі, святара і мучаніка.

**18** мая – успамін св. Яна І, папы і мучаніка.

**20** мая – успамін св. Бернардына Сіенскага, святара.

**21** мая – успамін св. Хрыстафора Магалана, святара і паплечнікаў, мучанікаў.

**25** мая – успамін св. Бэды Вялебнага, святара і доктара Касцёла.

**26** мая – урачыстасць Унебаўшэсця Пана.

**27** мая – успамін св. Аўгустына Кэнтэрберыйскага, біскупа.

**31** мая – свята Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі.



## Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з’яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага апаратара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на “Каталіцкі Веснік”, Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – В; 3 – В; 4 – Б; 5 – А; 6 – Б; 7 – Б; 8 – А; 9 – В; 10 – А

**Больш навін, здымкаў і відэа на**
**Catholicnews.by**


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 1792

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2800 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 14.04.2022 г. у 13.40

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь